PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 38 (2106) Год XLI Беласток 22 верасня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Мікола Ваўранюк

## Каб узяць — трэба ўкласці

3 кастрычніка 1990 года ў доме **Івана і Валянціны Адамчукоў** у Чыжах прадстаўнікі Міністэрства сельскай гаспадаркі і лясніцтва ФРГ пілі шампанскае за аб'яднанне Нямеччыны. Потым з Варшавы прыйшла гаспадару афіцыйная падзяка: „Otwartość i przyjacielska atmosfera okazana przez Pańską Rodzinę wobec gości niemieckich przyczyni się do zacieśnienia współpracy dla dobra polskiego rolnictwa".

Немцы, у кампаніі польскіх начальнікаў, вярталіся з Белавежы. Тадышні ваявода Пруціс невыпадкова завёз гасцей да Адамчукоў — у немалых і нябедных Чыжах няма ім роўных гаспадароў. Ды што ў адной, хай сабе і багатай вёсцы. Ваяводскі цэнтр сельскагаспадарчых парадаў прызнаў сёлета іхнюю гаспадарку другой у Беластоцкім ваяводстве. На жаль, у той дзень, калі адзначалі ўзнагароджаных, збіралася якраз Гмінная рада і Івану (ён таксама радны) не было як адлучыцца ў Беласток — пакуль нават дакладна не ведае, што гэта за ўзнагарода.

* * *

Іван Адамчук (1950 года нараджэння) пачынаў тыпова — з трынаццаці бацькавых гектараў. Сёння толькі ў адным куску ў яго дваццаць гектараў ворнага поля. Ёсць яшчэ ўчасткі па шэсць і сем гектараў ды некалькі меншых — разам сорак чатыры. Шэсць апошніх дакупіў зусім нядаўна, за намоваю сыноў.

— Каб больш эфектыўна выкарыстоўваць машыны, — паясняе спадар Адамчук, у якога самых трактароў — тры (зразумела, што ёсць усе патрэбныя да іх гаспадарчыя прылады, ёсць таксама свой камбайн), — мае хлопцы хочуць пабольшыць гаспадарку да ста гектараў. Многа чытаюць пра сучасныя метады гаспадарання, увесь час думаюць, што б тут яшчэ змяніць, як палепшыць. Любяць гэта.

Адамчукі вырошчваюць, галоўным чынам, збожжа: пшаніцу, ячмень, пшанжыта, бобік, лубін. Такая спецыялізацыя магчымая таму, што ўся зямля ў іх трэцяга-чацвёртага класаў. Але нават найлепшая глеба патрабуе адпаведнага догляду.

— Каб з зямлі ўзяць, трэба ў яе ўкласці, — выказвае спрактыкаваную гадамі праўду Іван Адамчук, — добра ўгнаіць, адпаведна і своечасова апрацаваць, забяспечыць збожжа ўсім, што яму патрэбнае. Я, напрыклад, сею агрэгатам — спачатку ідзе культыватар, за ім валок, які раўняе і толькі нарэшце сеялка. Зерне тады на адной глыбіні, усё роўненька ўзыходзіць. Потым, апрача традыцыйных сродкаў аховы раслін, я прымяняю падкормліванне экасолямі. Адпаведны прэпарат — экалагічны — з такімі кампанентамі як магній, азот, прывезлі мне аж са Свідніка. Пасля яго збожжа роўна спее, няма пустых каласоў. Прэпарат можна выкарыстоўваць і ў агародзе, вельмі, напрыклад, памагае на памідоры. У гэтым годзе я плануно пасеяць некалькі гектараў буракоў, каб даць змучанай зямлі пладазмен. Дык трэба будзе купіць буракакапалку. На гаспадарцы ўвесь час трэба інвеставаць, інакш затрымліваешся на месцы, потым пачынаеш спазняцца і няма ніякага толку.

Зялёных угоддзяў у Адамчука ўсяго пяць гектараў, тым не менш, з'яўляецца ён дзейным членам Польскага саюза авечкагадоўцаў. І хаця ў гадоўлі авечак былі лепшыя гады, то ўсё яшчэ экспарт ягнят у Італію дае немалы даход.

* * *

Усур'ёз Іван Адамчук пачаў развіваць сваю гаспадарку ў пачатку васьмідзесятых. Прыкупіў зямлі, пачаў будавацца, купіў у калгаса ў Крывой стары камбайн. Найцяжэй было ўсё раскруціць, успамінае, дзесьці да 1986 года.



*Іван Адамчук перад аўчарняй.*

— Пазней, калі ўжо ўскочыла ўсё ў выробленыя каляіны, стала лягчэй. Галоўнае, што я паспеў, пакуль грымнуў Бальцаровіч. У мяне ў пачатку рэформы было тры з паловаю мільёна даўгу, я яго хутка аддаў і, дзякуй Богу, не ўлез у тыя страшныя працэнты, якія не аднаго задушылі.

Апошнія гады сацыялізму, паўсюдны недахоп тавараў, патрабавалі звышактыўнасці. Каб купіць вялікі трактар, з перадачай на абедзве восі, даявлося два разы ў адзін тыдзень ездзіць у Міністэрства сельскай гаспадаркі, бо чыноўнікі ні ў Беластоку, ні ў Варшаве не маглі падпісаць адпаведнага квітка. Вырашыла ажно інтэрвенцыя самога міністра Зембы.

А каб не выкінулі ў 1987 годзе з чаргі на новы камбайн, трэба было завезці начальніка гміны ў Ваяводскую ўправу, каб той асабіста пацвердзіў, што Адамчук прадаў стары. Прыходзілася прымяняць і іншыя хітрыкі.

— Ніяк не мог я ў гміне выхадзіць паперы на касілку, — расказвае. — Сядаю я дома і пішу пісьмо. Апісваю, як мне цяжка працаваць, як аж суседзі мяне шкадуюць, што так убіваюся. Вы мяне мусіць саромеецеся, што я беспартыйны, пытаю ў заканчэнні. І тут мне прысылаюць працаўніка, каб я запісаўся ў партыю. То я ім на гэта, што спачатку трэба касілку. Ну і прызналі. Такім чынам стаў я на які год партыйным.

Цяпер, лічыць Адамчук, усё прасцей. Не трэба цалаваць клямку ў кабінетах розных масці „важных" чыноўнікаў. Усё вырашаюць грошы.

*(працяг на стар. 3)*



*На панадворку Адамчукоў — ні саломінкі.*

Яўген Міpановіч

## Вышаградская панарама

Чэхі — гэта асаблівы славянскі народ. У 1620 годзе, прайграўшы з аўстрыйцамі бітву пад Белай Гарой, на 300 гадоў патрацілі незалежнасць. Пад Белай Гарой разам з чэшскай шляхтай загінула таксама іх феадальная традыцыя. Чэшская эліта, так як і беларуская, апынулася ў крузе чужой культуры. Пры канцы XIX стагоддзя, у межах ліберальнай габсбургскай манархіі, узніклі спрыяльныя ўмовы для адраджэння чэшскай нацыянальнай культуры. Усе працэсы ў гэтай галіне ішлі падобным шляхам як у беларусаў. Чэхі, аднак, не кідаліся ў паўстанні, не хацелі быць рэвалюцыянерамі, не хацелі таксама змагацца „за вашу і нашу...". Імкнуліся жыць як найлепш у такіх палітычных умовах, якія былі. Стварылі прытым сабе высокі ўзровень матэрыяльнага быту, развівалі асвету сярод люду, прымалі без пратэстаў дамінацыю нямецкай мовы ў публічным карыстанні. У другой палове XIX стагоддзя сярод гэтага багатага і адукаванага грамадства пачалі нараджацца рэфлексіі гістарычнага характару. Славуты ваяка Швейк падчас І сусветнай вайны не надта ахвотна кідаўся ў бой за паважанага ім, і яго суродзічамі, імператара Франца Іосіфа.

У 1918 г. незалежнасць трэба было толькі ўзяць. У адрозненні ад беларусаў, чэхі не адкідалі такіх падарункаў гісторыі. Гэтая мяшчанская нацыя разам з сялянскімі славакамі стварылі дзяржаву з усімі дэмакратычнымі структурамі.

Чэхаславакія, як адзіная краіна ва ўсходняй Еўропе, праіснавала міжваенны перыяд без таталітарнага ці аўтарытарнага кіравання. Нават камуністычная партыя дзейнічала там цалкам свабодна. У 1938 г. чэхі змірыліся з вынікамі крывадушнай еўрапейскай палітыкі, якая аддавала іх краіну ва ўладанне гітлераўскай Нямеччыны. Невялікія кусочкі іх дзяржавы захапілі палякі і венгры. Аднак кашмар II сусветнай вайны чэхі перажылі амаль без стратаў. Сялянская Славаччына тым часам падаравала сабе фашызм у выглядзе ўлады ксяндза Ціса, а пасля камуністычнае падполле.

*(працяг на стар. 8)*

## Падзяка

Шчыра дзякую прыхільнікам майго пісьменства, арганізацыям і ўстановам, за дасланыя мне віншаванні ды пажаданні з нагоды майго шасцідзесяцігоддзя жыцця і саракагоддзя літаратурнай творчасці! **Сакрат Яновіч**

# Мы прачыталі

*Przeciętny polski nauczyciel nie informuje i nie przekonuje, tylko poucza i łaje. Wymagania i oceny zależne są od nastroju nauczyciela, a nie od zachowania uczniów i wartości ich pracy. Najczęściej w procesie nauczania powiela zużyte, podręcznikowe schematy oraz zdradza brak orientacji w postępie wiedzy, literaturze, kulturze i życiu politycznym. Wobec władz szkolnych salutuje, na uczniów tupie. Pokornie znosi dyskryminację płacową i wszelkie nonsensy w szkole, faworyzuje dzieci, których rodzice mają duże wpływy i pieniądze. Nikt nie dokonał rozeznania ilu w Polsce jest czynnych nauczycieli psychopatów.*

*W polskiej szkole jak nigdy dotąd — rozkwita hipokryzja: nauczycielska, uczniowska, rodzicielska. Ściągi, ucieczki z lekcji, zgłaszanie się do odpowiedzi z zastrzeżeniem, że nauczyciel ma prawo pytać tylko z ostatniej lekcji, targowanie się o stopnie oraz zwykłe oszustwa: zadania domowe na ksero, symulowanie choroby, fałszywe zaświadczenia lekarskie. Nauczyciele udają, że tego nie widzą. Realizując program i tak nie wierzą, że uczeń tę wiedzę kiedykolwiek wykorzysta. To co przekazują trafia co najwyżej do pięciu osób w klasie. Reszta przed klasówką napisze ściągi.*

*Polityka, nr 35*

* * *

*Nowy konsul Republiki Białoruś Paweł Łatuszko chce stać się reprezentantem Białorusinów mieszkających w Polsce.*

*Kurier Poranny, nr 201*

У Сейме?

* * *

*W Polsce człowiek głodny zajmuje się polityką, w Rosji robi interesy. Białorusini żyłki handlowej nie mają. Na Białorusi ludzie lubią porządek. Krawężniki malują na biało, rynny na srebrno, w parkach obcinają uschnięte konary, a blizny malują pastą ogrodniczą. Ludzie są łagodni, bez agresji. Przechodząc przez ulicę nie czuje się, że każdy kierowca chce upolować przechodnia tak jak w rosyjskich miastach. W mińskim metrze nawet nie puszczają na ciebie drzwi wahadłowych. Ludzie przytrzymują je i oglądają się za siebie. W Moskwie wygląda to tak, jakby każdy chciał drzwiami zabić bliźniego.*

*Gazeta — Magazyn, nr 34*

Ветлівaму чалавеку, аднак, заўсёды нехта мае ахвоту дакучыць.

* * *

*Białystok to miasto ulepione w XVIII wieku z wsi okalających magnacką rezydencję Jana Klemensa Branickiego zawsze było mutacją polskiej prowincji. Toteż zmiany ostatnich siedmiu lat miały tu swój oryginalny przebieg; linie podziałów charakterystyczne dla całego kraju zostały zdeformowane przez te zastane na Polaków i Białorusinów, na katolików i prawosławnych. Białystok przedwojenny zniknął w holocauście. Ów podział na Białorusinów i Polaków, na prawosławnych i katolików jako podział zasadniczy zrodził się dopiero w latach 50. i 60. W Białymstoku kolejne partyjne klany wymieniając się w rytm zmian w Warszawie, powstawały na zasadzie obsadzania piramidy „swoimi", często pobratymcami z tej samej wsi. Tak powstało wrażenie, że każda z ekip jest albo „białoruska" albo „polska". Arsenał argumentów wytaczanych w Białymstoku przeciw Białorusinom bardzo przypomina arsenał polskiego antysemityzmu. Zbiorowa odpowiedzialność za UB, za PZPR, za prorosyjskie sympatie... Kościół katolicki w Białymstoku przejawia mentalność kresowej stanicy. Tutejsza Cerkiew czerpie korzyści z położenia oblężonej twierdzy...*

*Polityka, nr 35*

Палесціна!!!

* * *

*W przypadku mianowania szefowej OPZZ Ewy Spychalskiej na ambasadora w Mińsku przekroczone zostały granice szaleństwa.*

*Kurier Poranny, nr 201*

* * *

*Koalicja nałożyła knebel na wolną prasę. Jeśli dziennikarz zdemaskuje np. korupcję, ale naruszy przy tym czyjeś dobra osobiste, sądu nie będzie interesowało, czy swoje informacje sprawdził, czy są wiarygodne, ani czy dochował należytej staranności w ich zbieraniu. Istotne będzie tylko, że czyjeś dobra zostały naruszone. „Pozytywnym" następstwem regulacji prawa prasowego będzie wzrost dochodów kancelarii adwokackich.*

*Gazeta Wyborcza, nr 201*

* * *

*Około 80 proc. byłych funkcjonariuszy MSW pracuje w agencjach ochroniarskich. Bitwa stoczona przez 300 ochroniarzy na dworcu kolejowym w Terespolu pokazała, że licząca 200 tys. osób armia najemników jest dziś poza wszelką kontrolą. Pięć tysięcy firm ochroniarskich w Polsce może egzystować dzięki powiązaniom ze światem przestępczym. Agencje muszą wytwarzać sztuczny popyt na swe usługi, potęgują psychozę strachu i zagrożenia. Obok policjantów do agencji trafiają zwyczajni kryminaliści.* *Wprost, nr 35*

# З мінулага тыдня

**II Міжнародная нумізматычная канферэнцыя**, якая праходзіла пад лозунгам „Развіццё музеязнаўства і нумізматычнага калекцыянерства — даўней і сёння — у Беларусі, Літве, Польшчы і Украіне", адбылася ў Супраслі. Яе арганізатарамі выступілі Польскае нумізматычнае таварыства і Музей войска з Беластока. Тэмай выступленняў дакладчыкаў з Беларусі былі нумізматычныя фонды менскіх музеяў.

**Школы спартыўнага майстэрства** неабходны Беласточчыне — да такой высновы дайшлі дырэктары і настаўнікі школ, якіх вучні вылучаюцца спартыўнымі дасягненнямі, на сустрэчы, арганізаванай пасалом Сейма **Кшыштофам Вольфрамам**. У Польшчы працуе 15 спартыўных школ і два інтэрнаты. На Беласточчыне няма ніводнай такога тыпу ўстановы. Пасол заявіў, што будзе імкнуцца прыцягнуць да ажыццяўлення гэтай ідэі астатніх паслоў Беластоцкай зямлі і прэм'ер-міністра.

**Управа горада Беластока** вырашыла пачаць працы над фармальным далучэннем Беластока да арганізаванага трансгранічнага саюза Еўрарэгіён „Нёман".

**Беластоцкае таварыства жыллёвага будаўніцтва** ствараецца ў Беластоку. Праект гэтай суполкі адобрыла Управа горада, якая прадбачыла ў бюджэце на 1997 г. 18 млрд. старых зл. на будову першых ста кватэр. Гарадскія ўлады возьмуцца будаваць кватэры сярэдняга стандарту пры фінансавай дапамозе Краёвага жыллёвага фонду. Пакупнікам кватэр трэба будзе ўнесці 10-працэнтны гарантыйны залог. Аб стварэнні таварыства канчаткова вырашаць гарадскія радныя.

**Беластоцкі кааператыў народнага мастацтва „Cepelia"** будзе ліквідаваны. Захоўжанасць гэтага прадпрмества складае 580 тыс. зл. і ўжо амаль дасягае вартасці ягонай маёмасці. Кааператыў паўстаў у 1946 г. і займаўся вырабам, гандлем і скупкай мастацкіх вырабаў у народных умельцаў.

**Пры медвыцвярэзніку ў Беластоку** будзе створана начлежка для бяздомных. Управа горада прызначыла 400 млн. ст. зл. на прыстасаванне будынка для гэтай мэты.

**Змяншаецца паказчык беспрацоўя** ў Беластоцкім ваяводстве. Агулам у васьмі раённых службах занятасці насельніцтва зарэгістраваных было 39 979 незанятых чалавек, у тым ліку амаль 23 тысячы жанчын. У параўнанні да даных з канца ліпеня мінулага года, лік беспрацоўных упаў на паўтары тысячы чалавек, што складае 3,8%.

**Расце лік украдзеных аўтамабіляў.** За восем месяцаў г.г. у Беластоцкім ваяводстве прапала 209 аўтамашын, галоўным чынам „Фіятаў", „Паланезаў" і „Фольксвагенаў". У аналагічным перыядзе мінулага года зладзеі ўкралі 202 легкавікі. А цераз гранічныя пераходы кантрабандысці перапраўляюць перш за ўсё украдзеныя ў заходніх краінах іншамаркі. Да канца жніўня пагранічнікі Падляшскага аддзела Гранічнай аховы затрымалі ўжо 351 аўтамабіль (за ўвесь 1995 г. — 503).

**На Кантрольна-прапускным пункце ў Кузніцы-Беластоцкай** сакольская паліцыя затрымала двух паліцыянтаў з Беластока, якія ўзялі хабар ад беластачаніна. Гэты прадпрымальны жыхар Беластока нелегальна прадаваў на граніцы шафёрам карткі, якія вызначалі месца ў чарзе да гранічнага кантролю. Раённая пракуратура ў Саколцы супраць паліцыянтаў і хабарадавальніка ўзбудзіла следства.

# Весткі з Беларусі

**Мацаванне прэзідэнта**

Прэзідэнцкі праект новай рэдакцыі канстытуцыі прадугледжвае замест Вярхоўнага Савета стварэнне Нацыянальнага Сходу, які будзе складацца з Палаты Прадстаўнікоў і Сената. Тэрмін паўнамоцтваў парламента вызначаны чатырма гадамі. Праект асноўнага закону істотна пашырае паўнамоцтвы прэзідэнта рэспублікі. Кіраўніку дзяржавы канстытуцыя дае права распускаць парламент, прызначаць рэферэндумы, трэцюю частку членаў Сената, старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю, старшыню і пяцёх членаў Канстытуцыйнага суда. Са згоды парламента ён прызначае прэм'ер-міністра, старшыню і членаў Вярхоўнага суда. Прэзідэнт можа быць зняты з пасады па стане здароўя, за дзяржаўную здраду або цяжкае злачынства.

**Нарада з даверанымі**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з выбранымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Каля васьмідзесяці парламентарыяў, якія прыйшлі ў рэзідэнцыю прэзідэнта, выслухалі меркаванні і погляды кіраўніка дзяржавы на палітычныя і эканамічныя працэсы ў краіне. Узнімаліся таксама пытанні рэферэндуму, праекта канстытуцыі і лёсу цяперашняга парламента. Аляксандр Лукашэнка запэўніў дэпутатаў, што калі на рэферэндуме будзе прыняты прапанаваны ім праект канстытуцыі, то ніякіх выбараў у новы парламент не будзе, а Нацыянальны Сход сфарміруецца з ліку сённяшніх парламентарыяў.

**Прэзідэнцкае паражэнне**

Вярхоўны Савет 6 верасня (ужо пасля нарады часткі дэпутатаў у прэзідэнта) прыняў пастанову, якая дату рэферэндуму назначыла не на 7 лістапада — як гэтага хацеў Аляксандр Лукашэнка — але на 24 лістапада. У гэты дзень адбудуцца таксама давыбары ў парламент. Да прапанаваных прэзідэнтам пытанняў і ягонага праекта канстытуцыі Вярхоўны Савет дадаў свае пытанні (аб выбарах выканаўчых органаў улады, аб выплаце зарплаты, пенсій і стыпендый, аб бяз'ядзернай дзяржаве і іншыя) ды прапанаваны камуністамі і аграрыямі праект канстытуцыі, які прадугледжвае скасаванне інстытута прэзідэнцтва. Прапановы гэтых груповак, якіх падтрымоўвае значная частка выбаршчыкаў, могуць перашкодзіць планам узмацнення пазіцыі прэзідэнта.

**Амерыканскія парады**

Праблемы ажыццяўлення канстытуцыйнай законнасці, абароны асноўных правоў і свабодаў грамадзян былі галоўнай тэмай сустрэчы старшыні Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіні з паслом ЗША Кенетам Ялавіцам і кіраўніком Цэнтра па вывучэнню правоў чалавека Калумбійскага універсітэта ЗША Хенкенам. У ходзе гутаркі абмяркоўваліся таксама пытанні практыкі правядзення рэферэндумаў у дэмакратычных краінах.

**У падтрымку парламентарызму**

Міністэрствам юстыцыі зарэгістраваны Фонд падтрымкі парламентарызму. Асноўныя мэты фонду — пашырэнне ідэяў парламентарызму, садзейнічанне стварэнню ў рэспубліцы прававой дзяржавы. Яго заснавальнікамі выступілі дэпутаты Вярхоўнага Савета, вучоныя, прадстаўнікі інтэлігенцыі. Фонд мае намер арганізаваць вывучэнне айчыннага і замежнага вопыту ў палітычнай і дзяржаўнай дзейнасці, навуковую распрацоўку актуальных для Беларусі палітычных, прававых, сацыяльных праблемаў, абмен інфармацыяй.

**Неакамсамол**

Аляксандр Лукашэнка падтрымаў ініцыятыву Беларускага саюза моладзі па стварэнні саюза арганізацый моладзі дзяржаў СНД. Раней гэтая ідэя была адобрана выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэнем. Новая міждзяржаўная структура прызначана выконваць каардынацыйныя функцыі паміж маладзёжнымі арганізацыямі краін садружнасці і аднаўляць перапыненыя сувязі.

**Праверка газет**

Галоўнае ўпраўленне інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта паведаміла, што падатковая інспекцыя праводзіць праверку фінансава-гаспадарчай дзейнасці газет „Рэспубліка", „Свобода", „Беларуская газета", „Беларуская дзелавая газета", „Імя" і „Советская Белоруссия". „У ходзе праверкі, — заявілі інспектары, — выкрыты сур'ёзныя факты ўтойвання падаткаў і падатковых збораў". Можна тады спадзявацца, што нявыгадныя прэзідэнту газеты могуць быць закрыты.

## Неўзабаве ў „Ніве"


- Фестываль нацыянальных меншасцей у Гданьску.
- Восеньскія клопаты сялян.
- З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне.

# Як на дзікім Захадзе

Трыццаць гадоў таму, калі я дэманстраваў фільмы па вёсках, прыкмячаў неаднойчы, што найбольшай папулярнасцю карысталіся амерыканскія вестэрны і дэтэктывы. Мужчыны захапляліся героямі з экранаў, а падлеткі атаясамлівалі сябе з „чорным характарам", які заўсёды выходзіў пераможцам над слабейшым.

Зараз нічога не змянілася. Людзі надалей захапляюцца сенсацыяй і дэтэктывамі, а падлеткі ператварыліся з паклоннікаў у... сапраўдных „гангстэраў" і „вампіраў". Забойствы, насілле і гвалты — вось што сабою прадстаўляе новы парадак!

Рыначная эканоміка, беспрацоўе падзялілі наш народ на дзве грамадскія праслойкі — бедных і багатых. Адны жывуць прыпяваючы, а другім даху над галавой не хапае. Апошнія запаўняюць чыгуначныя станцыі, руіны развaленых дамоў, качуюць пад мастамі. Як пражыць? Трэба падумаць. І людзі думаюць! Той, хто куска хлеба не мае, намагаецца грош раздабыць, знайсці нейкую працу. Калі яе няма, кідаецца на грабеж, насілле.

Таму зараз страшна чалавеку на вуліцу выйсці. У белы дзень паб'юць цябе хуліганы, абакрадуць. Жанчыну ў цёмны вугал зацягнуць ды згвалтуюць. І вінаватых не знойдзеш! Дзіця бацькам украдуць, каб пасля мільёны патрабаваць на выкуп. Маладых дзяўчат прыманяць на „салідную" працу, каб пасля за граніцу ў прастытуткі прадаць. Распаўсюджваецца распуста сярод маладых. Парнаграфічныя журналы завальваюць многія кіёскі і іншыя пункты продажу ў прыватных прадпрымальнікаў. Як грыбы пасля дажджу вырастаюць усялякага віду фірмы і крамы тыпу „секс-шоп". Кажуць, быццам бы зараз у Беластоку ў кожным другім начным клубе стрыптыз паглядзець можна. Усё як на дзікім Захадзе!

Нядзелькі тры таму назад еду я цягніком з Беластока. У руках свайго сябрука прыкмячаю нейкі каляровы журнал.

— Паглядзі на „цудэнька", — кажа прыяцель і падае „Wamp", часопіс у сто старонак на высакаякаснай паперы.

Толькі ўзяўшы ў рукі, зразумеў я, што сабою прадстаўляе гэты журнал. Нават мне, мужчыну, гадка глядзець на такое свінства. А гэта ж свінства распаўсюджваецца ў крузе маладых, нашых дзяцей!

Грамадства, бачыўшы гэтыя паталагічныя з'явы, пачало патрабаваць ад праваахоўных і заканадаўчых органаў рашучай дзейнасці.

Рада Міністраў з Сеймам рашылі павялічыць бюджэт для паліцыі ў наступным годзе. Міністр З. Семянткоўскі абяцае грамадству стварыць „зоны бяспечнасці" ў большых гарадах. А я пытаюся за іншымі грамадзянамі краіны, што будзе ў меншых гарадах ці вёсках? Хто гарантуе нам бяспечную будучыню?

Аб паталагічных з'явах у прыгранічнай Чаромсе і навакольных вёсках, я неаднойчы пісаў на старонках „Нівы". Ды ўсё гэта быццам бы гарох аб сценку. Кажуць, што для прафілактычнай дзейнасці ў гміне паліцыянтаў малавата. На гранічны пункт у Полаўцах кантрабандыстаў кантраляваць ездзяць. Пытаюся тады, адкуль на чаромхаўскім рынку „рускія" з гарэлкай бяруцца? Няўжо на парашутах яны спускаюцца?

А што ў Кляшчэлях робіцца? Вось што расказаў мне В. К. — адзін з жыхароў горада.

У памяшканні колішняй „Бэтэскі" прыватны прадпрымальнік адкрыў піўны бар. Прыходзяць сюды розныя людзі. Неаднойчы бывала, што з'яўлялася дзесяць-пятнаццаць падлеткаў з Чаромхі, выключалі электрычнасць у бары, і пачыналі скандаліць. Усё адбываецца як на амерыканскім вестэрне. Барменка хаваецца за прылавак. У зале цёмна. Віскі і крыкі раз'юшаных „каўбояў" адбівае рэха аб сценкі будынка і выносіць на вуліцу! І тут кляшчэлеўская паліцыя бездапаможна раскладае рукі.

Гэтай справай пацікавіліся мясцовыя радныя і звярнуліся з прапановай у Ваяводскую камендатуру паліцыі, каб павялічыць колькасць функцыянераў.

Канстатуючы, трэба адзначыць, што мы, грамадзяне, надалей адчуваем небяспеку з боку ўсялякіх падонкаў грамадства. Нам непатрэбныя абяцанкі спадара міністра Семянткоўскага аб стварэнні нейкіх там „зонаў бяспечнасці". Нам патрэбная рашучая дзейнасць сторажаў правапарадку, якія аплачваюцца з нашых падаткаў.

Звычайны чалавек, ці то ў Чаромсе, ці ў Варшаве, ці на „забітай дошкамі" вёсцы павінен адчуваць сябе бяспечна і не хвалявацца, ці яго дзіця, якое пайшло ў школу, вернецца цэлае і здаровае, а ідучы вечарам вуліцай, не азірацца на ўсе бакі і баяцца, што нешта цяжкае зваліцца яму на галаву. Гэтага патрабуе наша грамадскасць. А калі органы правапарадку справяцца з назначанымі ім задачамі, мо тады спакайней і з аптымізмам будзем глядзець у будучыню?

**Уладзімір Сідарук**

# Справа ПКСу

Аўтобус, што ад'язджае з Белавежы каля шостай раніцы ў Беласток, не затрымоўваецца на прыпынку Даратынка — ён там праязджае каля 7.36. Гэты аўтобус павінен затрымоўвацца на ўсіх прыпынках між Белавежай і Нарвай. Павінны там таксама быць прыпынкі па жаданню на шашы між Нарвай і Кленікамі насупраць Тыневіч-Вялікіх і між Тыневічамі і Каменем каля могілак. У вольныя ад працы дні няма чым даехаць з Беластока ў Гайнаўку раніцай; аўтобуса, які ў будзень ад'язджае з Беластока ў 5.50, няма, а беластачане патрабуюць даехаць на вёску. Таксама і пасля поўдня няма чым вярнуцца ў Беласток. Цягнікі паміж Гайнаўкай і Беластокам скасавалі і цяпер трэба мучыцца, як у саракавыя гады.

Патрэбны таксама аўтобус у 5.00 з Беластока ў Орлю; там жанчына лечыць людзей, а даехаць няма чым.

Паміж Беластокам і Белавежай, на турыстычнай трасе, ёсць мястэчка Нарва, праз якое ездзіць многа людзей. Няма там прыбіральні і людзі са сваімі фізіялагічнымі патрэбамі ходзяць пад сцены будынкаў. Непадалёк прыпынка ПКСу стаіць будынак былога пастарунка: там магла б быць пачакальня, кіёск нейкі, ну і ёсць там прыбіральня. Гэту справу можа аформіць пан Мартынюк, цэлы шэф Нарвы і найбагацейшы ў рэгіёне чалавек.

Яшчэ хачу, каб дырэктар ПКСу ў Беластоку загадаў касіршам, каб свой чай пілі раней, а білеты пачыналі прадаваць у 5.00, а не ў 5.10. І з вакзальнай залы трэба прагнаць базар, а паставіць лаўкі, каб можна было сесці.

Чаму ў Сацы, у якіх 200 жыхароў, і ў Пухлы не ездзяць праз Канюкі і Цялушкі аўтобусы, што ад'язджаюць з Беластока ў 5.20, 10.20, 15.30?

Аўтобус з Беластока ў Гайнаўку праз Бандары і Семяноўку, што ад'язджае ў 9.40, павінен ад'язджаць у 6.00.

І калі ўрэшце будзе вырашана справа даезду з Беластока праз Нарву, Крыніцу, Бярначчыну, Ляўкова і Нараўку ў Масева?

**С. Хадакоўскі**

# Каб узяць — трэба ўкласці

*(працяг са стар. 1)*

* * *

Добрых гаспадарак у нас усё больш. Цяжка, аднак, будзе знайсці другую, так упарадкаваную, як у Адамчукоў. Панадворак каля хаты асфальтаваны, далей, каля гаспадарчых будынкаў — высыпаны шлакам. Вакол дома, аўчарні, сталярні, перад клуняй — газоны з роўна падстрыжанай травой, кветкамі і маладзенькімі ялінкамі. Газоны асветленыя, стаяць на іх — на нямецкі манер — чырвонашчокія гномы.

— То ўжо сыны аб гэтым клапоцяцца, — з гонарам паказвае Іван Адамчук. — Славіку дваццаць гадоў, а Радку дзевятнаццаць, канчаюць дрэваапрацоўчы тэхнікум у Гайнаўцы і, паколькі моцна цікавяцца сельскай гаспадаркай, добра было б, каб яшчэ падвучыліся дзе ў добрай школе. Варта таксама з'ездзіць ім за мяжу, каб прыгледзецца, як там гаспадараць.

На панадворку Адамчукоў ні саломіны, ні паперкі, ні, крый Божа, акурка. У доме, на ўсіх трох паверхах, чысціня аж свеціцца.

— О, тады тыя немцы то набалаганілі, — смяецца гаспадар, — але ж немцу не скажаш, каб скінуў чаравікі.

**Мікола Ваўранюк**

# Фэст у Гайнаўцы

Беларускія мастацкія калектывы, якія 8 верасня г.г. прыехалі на фэст у Гайнаўку, нервова спазіралі на зацягнутае грознымі свінцовымі хмарамі неба. Усе ставілі сабе пытанне: ці ліне дождж? Ад гэтага залежала, ці адбудзецца фэст у паркавым амфітэатры. Мікалай Бушко, дырэктар Гайнаўскага дома культуры, адпусіў глядзельную залу вясельнікам і таму фэст мог адбывацца толькі пад адкрытым небам. На вялікае шчасце страшэнная халадэча астудзіла неба да такой ступені, што свінцовыя хмары не лінулі даждом, ані не паспелі сыпануць снегавой замеццю.

Нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, гайнаўская публіка не падвяла. Карона амфітэатра запоўнілася цалкам.

Арганізатары вырашылі распачаць запланаванае мерапрыемства. Адкрыў фэст старшыня Гарадской рады ў Гайнаўцы Якуб Астапчук. Прывітаў ён сардэчна ўсіх прысутных, а асабліва дэлегацыю са 120 жыхароў Свіслачы і раёна, у тым ліку калектыў народных інструментаў з Поразава. Прывітаў таксама віцэ-консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Паўла Латушку і паслоў Сейма Станіслава Малішэўскага і Сяргея Плеву.




Фота Сяргея Грынявіцкага

Аб дасягненнях БГКТ за саракагоддзе дзейнасці гаварылі старшыні ГП БГКТ — Янка Сычэўскі і Аляксандр Баршчэўскі. Канцэрт, як заўсёды, вяла Валянціна Ласкевіч — сакратар ГП БГКТ. „Цешуся, — сказала яна публіцы, — што прыбыло вас так многа на беларускі фэст, нягледзячы на неспрыяльнае халоднае надвор'е. Пастараемся разагрэць вас добрымі беларускімі песнямі". Пачаў канцэрт дэбютант — дзіцячы мастацкі калектыў Гайнаўскага дома культуры пад кіраўніцтвам Анны Стрыхі з Гродна. Затым выступіў дзявочы мастацкі калектыў з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы (на здымку) пад кіраўніцтвам Бажэны Леўчук. З вялікім поспехам спяваў мастацкі калектыў „Чарамшына" з Чаромхі пад кіраўніцтвам Барбары Кузуб. Потым выступалі „Чыжавяне" з Чыжоў пад кіраўніцтвам Кастуся Яўхімені з Гродна, новастораны маладзёжны мастацкі калектыў з Белавежы, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова пад кіраўніцтвам Міколы Мяжэннага з Гродна. Упершыню таксама на беларускім фэсце выступілі ў дуэце сужонства Анна і Баляслаў Гваздзікі з Гайнаўкі. Апошнім з мастацкіх калектываў Беласточчыны прэзентаваўся хор Беластоцкага аддзела БГКТ пад кіраўніцтвам Любы Гаўрылюк і Віктара Маланчыка з Гродна.

На заканчэнне выступілі госці — калектыў народных інструментаў з Поразава. Адыграў ён некалькі агульнавядомых савецкіх мелодый, а салісты праспявалі некалькі папулярных рускіх савецкіх песень.

На фэсце прадаваліся касеты з песнямі беларускіх мастацкіх калектываў. Пісьменнікі-„белавежцы" Янка Целушэцкі і Віктар Швед падпісвалі свае зборнікі.

**В. Ш.**

# Беларусь — ускраіна „еўрапейскага" праваслаўя

**Размова з Міколам МАТРУНЧЫКАМ — старшынёю Беларускага праваслаўнага брацтва Святых Віленскіх мучанікаў у Мінску.**

***— Як узнікла Беларускае праваслаўнае брацтва?***

— Стварыла яго ў 1992 г. невялікае кола беларускай інтэлігенцыі, якое памкнулася з'яднацца вакол Петрапаўлаўскага сабора. За сабор ішлі спрэчкі. Пэўны час на яго прэтэндавала уніяцкая суполка і ладзіла набажэнствы на вуліцы. Прыходзілі тады і русафілы, якія спявалі „Боже, царя храни". Дык вось вакол айца Георгія Латушкі пачалі збірацца знаёмыя раней сабе праваслаўныя беларусы.

***— Ці ўсё абмяжоўвалася толькі да кола знаёмых?***

— Потым нас стала падштурхоўваць да дзейнасці тое, што пачалі кантактавацца з беларускімі праваслаўнымі прыходамі па-за межамі Беларусі, перш за ўсё амерыканскімі. Яны належаць да розных юрысдыкцый, але аб'ядноўвае іх думка, каб была беларуская Царква.

Вялікую ролю адыграў таксама мітрапаліт Філарэт. Ён у свой час глыбока адчуў ініцыятыву стварыць Брацтва, надае гэтаму вялікае значэнне і благаслаўляе. Дзякуючы таму прадухіліў зародкі раскольніцкіх ініцыятыў у Беларусі. На глебе нацыянальнасці мог бы паўтарыцца ўкраінскі варыянт. У нас усё ідзе эвалюцыйна.

***— З чаго пачалася канкрэтная дзейнасць Брацтва?***

— Пачалі збіраць пераклады, якія былі зроблены да гэтай пары і спрабавалі ўвесці іх ва ўжыванне Праваслаўнай царквой у Беларусі. У 1993 г. на грунце гэтай ідэі заснавалі часопіс „Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце". На нашу ціхую думку ён павінен аб'ядноўваць усіх праваслаўных беларусаў. Выдалі мы ўжо шэсць нумароў. Сталі выдаваць і праваслаўны каляндар.

***— Як ставіліся іншыя да беларускіх праваслаўных выданняў?***

— Назіраецца станоўчая змена падыходу сярод творчай інтэлігенцыі, напрыклад, да камісіі перакладу. Спачатку на яе прыходзілі, каб выказаць незадаволенасць і ўзаемныя абвінавачанні. Цяпер узяліся за працу. З дазволу мітрапаліта Філарэта інтэнсіўна перакладаецца Евангелле. Анатоль Клышка самастойна пераклаў Новы Запавет і рыхтуе новы лемантар. Уладзімір Мархель узяўся перакладаць Багагласнік. Складаем царкоўнаславянска-беларускі слоўнік. Цікавіцца ім, між іншымі, Алесь Разанаў і дае свае прапановы. Памалу прывыкаюць нават тыя спачатку вельмі варожыя. Паколькі ўсе засталіся пры сваім, гэта ўжо факт, які ўплывае на царкоўнае і грамадскае жыццё.

***— Мова — гэта вельмі важны фактар у нацыянальным і рэлігійным жыцці, але не адзіны...***

— Вялікую ўвагу пачынаем надаваць вывучэнню гісторыі праваслаўя ў Беларусі. Яна дагэтуль пісалася тэндэнцыйна расійскімі і савецкімі гісторыкамі. Патрэбнае новае асэнсаванне з беларускага пункту гледжання. Працуе ўжо Лабараторыя царкоўнай гісторыі, якая займаецца зборам, сістэматызацыяй і падрыхтоўкай да выдання адпаведных даследаванняў. Выдадзена ўжо першая кніжка: „Гісторыя Полацкай епархіі". Падрыхтавана „Гісторыя Мінскай епархіі". За імі пойдуць па чарзе гісторыі дзесяці епархіяў.

***— Дагэтуль гаварылі мы толькі пра інтэлігенцыю. А як прымаюць абеларушванне Царквы духавенства і звычайныя вернікі?***

— Першыя гады адчувалася насцярожанасць. З цягам часу на нашы выданні пачаўся попыт і сярод святароў. Да нас сталі прыходзіць лісты з просьбамі даслаць каляндар. Раней цяжка было знайсці святара, які згадзіўся б даць пропаведзь на беларускай мове на нейкім святкаванні. Цяпер ёсць ахвотныя святары, якія быццам бы ўсё рыхтаваліся да таго.

***— Калісь у Слуцку падчас святкавання ўгодкаў Слуцкага паўстання святар спярша згадзіўся адслужыць малебен, а калі прыйшло што да чаго — проста знік...***

— Апошнім разам на святкаванні быў і святар, і хор. Дарэчы, у Слуцку дзейнічае актыўнае брацтва.

***— Калі ўжо гаворым пра становішча па-за Мінскам: ці ваша Брацтва мае нейкія структуры па-за сталіцай?***

— Спробы стварыць філіялы ў іншых месцах не даюць рэзультатаў, хаця звярталіся з тым да нас многія. Кожнае брацтва павінна мець прыхільнасць свайго епіскапа і настаяцеля. Таму ўзнікаюць самастойныя брацтвы, якія ўваходзяць у Злучнасць праваслаўных брацтваў Беларусі. Яна ўзнікла на базе і па ініцыятыве нашага Брацтва. У Злучнасці пятнаццаць брацтваў. На пачатку будучага года адбудзецца ўжо трэці яе З'езд.

Паколькі мы былі пачынальнікамі, усё, што ў Праваслаўнай царкве было звязанае з беларушчынай, стала асацыявацца з дзейнасцю нашага Брацтва. З нейкімі пытаннямі і патрабаваннямі ўсе звяртаюцца якраз да нас. Дзякуючы таму маем поўную і рэалістычную карціну таго, што ёсць Праваслаўная царква ў Беларусі і памкненняў святароў да беларушчыны. Можна сказаць — поўны банк інфармацыі.

***— А як выглядае гэтая карціна?***

— Выглядае перспектыўна. Еднасць вакол Царквы нацыянальна свядомых асоб прыцягвае моладзь з семінарыяў і свецкіх устаноў. Яны на семінарах „Сындэсмаса" бачаць, што ўсюды універсалізм праваслаўя неразрыўна звязаны з нацыянальнымі каштоўнасцямі. Такім чынам дзейнічае тое, што прароча гаворыць уладыка Мікалай з Канады: „Калі хочаце, каб Царква была беларуская, будзьце ў ёй".

Царква дазваляе мець кантакт з народам. Наш народ постсавецкі, нічога не зробіш. Усё-такі ў глыбіні душы верыць у Царкву. Можа не як ва ўстанову, але традыцыйнае месца выратавання. Калі ў тым месцы будзе інтэлігенцыя, можа будзе кантакт з „электаратам", на які ўсе толькі нараканюць, што ён не такі, як трэба.

***— Праваслаўныя брацтвы адрадзіліся на Беласточчыне на дзесяць гадоў раней, чымся ў Беларусі. Ці скарыстоўваеце іхні вопыт?***

— Шчыльны, непасрэдны кантакт з Беласточчынай дае нам вельмі многа. Пачаўся ён у 1993 годзе і ўсё болей нас натхняе. Прытым безупынна адчуваем падтрымку і прыхільнасць уладыкі Савы.

***— Ці праводзяцца нейкія супольныя мерапрыемствы?***

— Будзем аб тым раіць на пачатку лістапада, на сустрэчы цэнтральна-ўсходняга рэгіёна Еўропы „Сындэсмаса". Хочам наладзіць міжнароднае паломніцтва, каб адзначыць 400-годдзе віленскага Свята-Духаўскага манастыра і 650-годдзе праслаўлення святых віленскіх мучанікаў. Яны ўвасабляюць праваслаўе часоў Вялікага княства Літоўскага, якое ўсіх нас аб'ядноўвала.

Думаем таксама разам з „Сындэсмасам" або „Orthdruk"ам выдаць альбом, прысвечаны помнікам праваслаўнай архітэктуры часоў Вялікага княства Літоўскага на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы. Тагачасная архітэктура — гэта знакавае праяўленне нашай адметнасці.

Разам з Брацтвам пры Свята-Міхайлаўскай царкве ў Слуцку маем намер дабіцца таго, каб паломніцтвы з Беласточчыны даходзілі да месца, дзе быў Свята-Троіцкі манастыр у Слуцку. У ім у свой час знаходзіліся мошчы святога Гаўрыіла. Цяпер там зроблена часоўня. Вакол падрыхтаванае месца, каб размясціць паломнікаў.

***— Як можна ахарактарызаваць беларускае праваслаўе?***

— Стратэгічна Беларусь — ускраіна „еўрапейскага" праваслаўя. Жывем і будзем жыць у свеце, дзе ёсць не толькі праваслаўныя, але і каталікі, і іншыя; дзе секулярызацыя будзе раз'ядаць асновы традыцыі, якую мы захоўвалі на працягу тысячы гадоў, і на грунце якой узнік наш народ.

За Беларуссю пачынаецца іншае праваслаўе.

***— Дзякую за размову.***

Гутарыў

**Алег Латышонак**

# Чарговы рэферэндум

Ужо некалькі месяцаў у Беларусі гаворыцца аб правядзенні ў лістападзе г.г. чарговага рэферэндуму, які датычыць будзе зменаў канстытуцыйнага парадку ў дзяржаве. Ініцыятарам рэферэндуму з'яўляецца прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які гэтым разам імкнецца атрымаць „ад народа" згоду на сістэму, званую некалі „самадзяржаўем". Фармальна прапануе ён толькі ўвесці ў канстытуцыю змены, якія дазволяць яму вызначаць асноўную частку парламента і Канстытуцыйнага суда. Такім чынам прэзідэнт кантраляваў бы выканаўчую, заканадаўчую і судовую ўлады ў краіне. Ад Вярхоўнага Савета запатрабаваў ён адабрэння тэрміну рэферэндуму, прапанаванага ім на 7 лістапада г.г.

6 верасня Аляксандр Лукашэнка асабіста з'явіўся ў Вярхоўным Савеце, сярод дэпутатаў выбраных паводле ягоных палітычных патрабаванняў і пры дапамозе дзяржаўнага прапагандысцкага апарату. Зала амаль без воплескаў прывітала прэзідэнта, які зразу заняў месца на высокай трыбуне. Паўтары гадзіны прадстаўляў ён новы праект канстытуцыі, які ў сапраўднасці быў спалучэннем галоўных ідэй савецкага заканадаўства з 1936 г. і італьянскага з 1929 г. Прытым даказваў ён, што падобныя асноўныя законы маюць сёння Францыя, Італія і Злучаныя Штаты Амерыкі. Але паколькі вядома, што пра канстытуцыйны парадак краіны гэтым разам маюць вырашаць пенсіянеры, калгаснікі, наменклатура і дэмаралізаваны рабочы клас, прэзідэнт заявіў, што гаспадарка Беларусі пастаянна развіваецца, а людзям цяжка жывецца з прычыны таго, што навесці адпаведны сацыяльны парадак прэзідэнту перашкаджаюць „определённые органы верховной власти". Таму менавіта прэзідэнт „обращается к народу" з пытаннем: ці хоча ён лепей жыць? А калі хоча лепей жыць, тады: ці пагаджаецца на змены ў канстытуцыі? Можна спадзявацца, што пры амаль поўнай манаполіі прэзідэнта на інфармацыю, невялікі працэнт грамадства будзе ведаць, чаму ў сапраўднасці прысвечаны рэферэндум.

Пасля выступлення Лукашэнкі дэпутаты маглі ставіць яму „вопросы". На дзесяць пастаўленых пытанняў у сапраўднасці не адказаў ён на ніводнае, а дэпутатаў, якія звярнулі ўвагу на хлусліваць і крывадушнасць выступлення галавы дзяржавы, проста злаяў як нейкіх падданых.

Вярхоўны Савет пасля кароткай дыскусіі адкінуў прапанову прэзідэнта правесці рэферэндум 7 лістапада і запрапанаваў іншы тэрмін — 24 лістапада, дакідаючы да прэзідэнцкіх пытанняў свае, між іншым: ці патрэбны Беларусі інстытут прэзідэнцтва?

Тое, што пасля адбывалася ў беларускім тэлебачанні, перасягнула ўсе межы бессаромнасці. Пра маральнасць лукашэнкаўскіх журналістаў і каментатараў нават не варта згадваць. Дыктар дзяржаўнага тэлебачання Іна Хрушчова нават камуністаў абвінавяціла ў супрацоўніцтве з БНФ у развале беларускай дзяржаўнасці і эканомікі. Але бесканкурэнтным аказаўся галоўны лукашэнкаўскі ідэолаг, палітрук палкоўнік Уладзімір Замяталін. Сам доктар Гебельс у прысутнасці „господина" Замяталіна напэўна набавіўся б комплексу непаўнацэннасці. Дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, — заявіў палкоўнік, — вінаватыя ў развале Савецкага Саюза, а ў выніку — беларускай гаспадаркі. Сучасны Вярхоўны Савет Беларусі, — прадаўжаў Замяталін, — далей працягвае працэс разбурання беларускай дзяржаўнасці і эканомікі, перашкаджае прэзідэнту ашчаслівіць беларускі народ. Здаецца, не было злачынства, у якім палкоўнік Замяталін не абвінавацў бы дэпутатаў.

Яшчэ 6 верасня лукашэнкаўскае тэлебачанне заявіла, што "глава государства" не будзе больш шукаць паразумення з парламентам. На наступны дзень яшчэ пару разоў передавалася выступленне прэзідэнта, а нейкія „вучоныя аўтарытэты", быццам бы выцягнутыя з маразільніка прапагандысты трыццатых гадоў, паўтаралі засакрэчаны для большасці грамадзян тэрмін „дзяржаўны пераварот". Яго аўтарамі мелі быць лідэры палітычных партый, ад камуністаў да лібералаў, якія переканалі дэпутатаў адкінуць прэзідэнцкую версію рэферэндуму. Вярхоўнаму Савету лукашэнкаўскія прапагандысты ставілі закід парушэння канстытуцыі і такім чынам, — даказвалі, — прэзідэнт атрымаў усе правы распусціць парламент. Хаця канстытуцыя Беларусі не прадбачвае такой магчымасці, а наадварот, парламент можа адклікаць прэзідэнта, гэта не перашкаджала рэжымным юрыстам апраўдваць сцэнарый такога развіцця сітуацыі. Спасылаліся яны на выніку рэферэндуму ад 15 мая 1995 г., калі „народ высказался в поддержку президента".

Быццам бы няма ў гэтым нічога новага — усе еўрапейскія дыктатуры стварался падобным шляхам, заўсёды спасылаючыся на „волю народа". Выглядае на тое, што беларускі народ чакае новы перыяд палітычнай дэмаралізацыі. **(рэд.)**

# На адну пляму менш

У выдавецтве беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта выйшла капітальная праца д-ра Антона Мірановіча „Праваслаўе і унія за панавання Яна Казіміра"*). Аўтара яе няма патрэбы прадстаўляць — ён добра вядомы нашым чытачам па шматлікіх артыкулах па гісторыі праваслаўя, што публікаваліся ў „Ніве", „Czasopisie", „Przeglądzie Prawosławnym" і іншых выданнях, і асабліва па кнізе „Падляшскія праваслаўныя цэнтры і арганізацыі ў XVI і XVII стагоддзях". Навуковы свет ведае А. Мірановіча як актыўнага ўдзельніка агульнапольскіх і міжнародных сімпозіумаў, сесій і іншых навуковых форумаў. Праваслаўныя ж нашай краіны высока цэняць А. Мірановіча як ахвярнага царкоўнага дзеяча.

„Адносіны караля, сенатараў, лацінскага і праваслаўнага духавенства, рускай грамадскасці і казацтва да уніі ў бесперапынна зменлівых абставінах дваццацігадовага панавання апошняга Вазы дагэтуль належна не абмеркаваны ў гістарычнай літаратуры, — заўважае А. Мірановіч ва ўступе да свае кнігі і ўдакладняе: — Дагэтуль не было прадстаўлена ўздзеянне Апостальскай сталіцы, Канстанцінопальскага і Маскоўскага патрыярхаў на суадносіны паміж веравызнаннямі ў Рэчы Паспалітай. Не раскрываючы гэтай справы і ўнутраных абумоўленасцей краіны, цяжка зразумець суадносіны паміж рымскімі католікамі, уніятамі і праваслаўнымі". Такім чынам яшчэ адна надакучлівая „белая пляма" ў трагічным мінулым нашае Царквы ліквідавана, на яе месцы прадстала перад намі болей за 70 гадоў (1596—1670) бесперапынных змаганняў праваслаўных за права на існаванне іх веры, іх Царквы, іх духовай культуры.

Даследаванне складаецца з сямі раздзелаў. I. „Праваслаўная і уніяцкая Цэрквы ў гадах 1596—1648" — у ім разглядаецца працэс вынішчэння праваслаўя ў Рэчы Паспалітай рукамі католікаў і уніятаў на чале з каралём Зыгмунтам III Вазам пад паўсюдным націскам Апостальскай сталіцы, а таксама першыя перамогі праваслаўных у абароне свае веры за панавання караля Уладзіслава IV. II. „У эпоху паўстання Багдана Хмяльніцкага" — тут разглядаецца тая страшэнная „цана", якую давялося заплаціць Рэчы Паспалітай за невырашэнне праблемы надання роўных правоў праваслаўю і няўдачлівы пачын Брэсцкай уніі. У III раздзеле „Ад Пераяслава да Гадзяча" падрабязна прадстаўлены крывавыя гады вайны з Расіяй, калі загінула мноства насельніцтва і былі дашчэнту разрабаваны беларускія землі, казакі дабіліся права на стварэнне на ўкраінскіх землях Вялікага княства Рускага, аднак не здолелі ажыццявіць яго, дамагліся таксама зліквідавання уніі, але Апостальская сталіца праз польскую каталіцкую іерархію звяла на нішто гэтую пастанову. Раздзел IV „Перад і пасля Гадзяцкага пагаднення" — гэта перш за ўсё паказ таго, як польская дыпламатыя на чале з каталіцкай іерархіяй вадзіла за нос даверлівых, адкрытых і бясхітрасных казакоў да тае пары, пакуль не перацягнула на свой бок подкупамі ды абяцаннямі ўсё казацкае старшынства разам з гетманам Выгоўскім. Праўда, простае казацтва раскрыла здраду, частку здраднікаў пакарала смерцю, іншыя на чале з Выгоўскім ратаваліся ўцёкамі за мяжу. „У часы Маскоўскай вайны" (V раздзел) прысвечаны палажэнню праваслаўных на Украіне і Беларусі падчас вайны Рэчы Паспалітай з Расійскай дзяржавай у гадах 1660—1666, адраджэнню уніі і новым унійным прапановам. Раздзел VI „У палове шасцідзесятых гадоў" — гэта разгляд тых працэсаў і падзеяў, з-за якіх праваслаўная Царква не змагла заняць належнае ёй месца ў грамадскім жыцці дзяржавы, хаця праваслаўных парафій — і значыць: веруючых — было амаль у чатыры разы болей за уніяцкія. VII раздзел „У апошнія гады панавання" прысвечаны разгляду канчатковай ліквідацыі рэштак рэлігійнай талерантнасці ў Рэчы Паспалітай. „Пасля Андрусоўскага перамір'я (1667 г.) палітыка дзяржаўных уладаў і Апостальскай сталіцы будзе нацэлена на захоп усіх епархіяльных цэнтраў і гэтым самым да поўнай ліквідацыі праваслаўнай Царквы", — сцвярджае аўтар. Умацоўваецца становішча, што смяротным ворагам праваслаўя стала Рэч Паспалітая, а адзіным яго абаронцам — Расія. У „Заканчэнні" А. Мірановіч напаміінае пра асобныя этапы, якія вялі да поўнай перамогі каталіцкага фундаменталізму ў Рэчы Паспалітай і вынішчэння дашчэнту праваслаўя.

Цяжка пераацаніць каштоўнасць даследавання д-ра А. Мірановіча, асабліва ў наш час, калі зафальшоўваецца гістарычная праўда і пад неба выхваляецца нібыта „мірная культурна-асветніцкая" місія каталіцызму на беларускіх і ўкраінскіх землях. Кніга аб'ектыўна раскрывае на аграмадным фактаграфічным матэрыяле адвечнае імкненне Апостальскай сталіцы любым коштам — часцей за ўсё рукамі польскага народа — паняволіць сваёй уладзе праваслаўных беларусаў, украінцаў і рускіх. Шкада толькі, што ў ёй трагічны лёс праваслаўя і яго вернікаў на беларускіх землях сышоў на другі план, апынуўся ў цяні канфесійных, мілітарна-палітычных падзей на Украіне. Спадзяемся, аднак, што наш выдатны гісторык прысвеціць гэтай справе асобнае даследаванне і выйдзе яно тыражом хаця б у некалькі тысяч паасобнікаў, а не яўнай ядавітай насмешкай над намі, праваслаўнымі, у 250 экземплярах, як выдадзена кніга д-ра Антона Мірановіча.

**Мікола Гайдук**

*) A. Mironowicz, *Prawosławie i unia za panowania Jana Kazimierza*, Białystok 1996, s. 344.

# Вучыся, народзе!

У Бельску, па ініцыятыве мясцовых украінскіх дзеячаў, у двух школах вядзецца навучанне ўкраінскай мовы: у Пачатковай школе № 4 (ужо трэці год) і Пачатковай школе № 1 (першы год). На працягу мінулага года ўкраінскай мове маглі вучыцца таксама вучні Пачатковай школы № 5, аднак сёлета няма ўжо там гэтага прадмета.

Бельскія дзеячы Саюза ўкраінцаў Падляшша вялі таксама агітацыю сярод жыхароў Чаромхі (не без поспеху) за ўвядзенне ўкраінскай мовы ў тамашнюю школу. Гэтая актыўнасць нічуць не здзіўляла б, калі б не дробная акалічнасць: сваіх дзяцей пасылаюць яны ў ... „тройку", дзе ўсе абавязаны вывучаць беларускую мову. Так зрабіў войт Бельскай гміны (нядаўна старшыня СУП) Юры Ігнацюк, так сама сакратар і найбольш плённы аўтар штоквартальніка „Над Бугом і Нарвою" Юры Гаўрылюк ды радны Гарадской рады Пётр Кандрацюк. Гэта, так сказаць, тузы, побач якіх у „тройцы" можна было б падшукаць яшчэ некалькі відных ва ўкраінскім асяроддзі Бельска прозвішчаў.

Каго, затым, хочуць яны ашчаслівіць украінскай мовай, калі сваіх дзяцей пасылаюць на беларускую? Да жывога нагадвае гэта і многіх нашых вялікіх дзеячаў, што заклікаюць просты народ „не пакідаць мовы роднай беларускай", а тым часам іх дзеці на гэтай мове ні бэ, ні мэ. **(ак)**

# Напісаць гісторыю школы

„Была ў Грабаўцы школа" — так у 32 н-ры „Нівы" Славамір Кулік сумна канстатуе факт. Цяжка паверыць, што пасля звыш стогадовай, амаль бесперапыннай працы гэты асяродак асветы і культуры ўжо не існуе. І наўрад ці зноў будзе. Грабавецкая школа, гэта была не проста адна з дзесяткаў вясковых школ. У свядомасці тых, што ведаюць пакручастыя шляхі нашай падляшска-беларускай гісторыі, школа існавала як нейкі сімвал. Спароджана яна намаганнямі айцоў Краскоўскіх. Умацавана ў родным нацыянальным духу намаганнямі Веры Матэйчук... Гэтыя перыяды патрабуюць яшчэ глыбокіх доследаў. Не менш цікавы, відаць, таксама перыяд грабавецкай асветы ў міжваенны ды савецкі перыяды. Захавалася, для прыкладу, частка перапіскі загадчыка раённага выканаўчага камітэта ў Кляшчэлях, да кіраўніка школы ў Грабаўцы. У адным з лістоў, пісаным 6 мая 1940 года, А. Касарукаў збянтэжаны тым, што дзеці прапускаюць школьныя заняткі з прычыны палявых работ, строгім бальшавіцкім тонам паведамляў: „Немедленно соберите родительское собрание, где поставьте вопрос о проверочных испытаниях и посещаемости. На родительское собрание обязательно пригласите председателя сельских комитетов и председателя сельсовета". Наступнымі гадамі *людэ грабовэцькі* спазналі яшчэ большую, нямецкую строгасць.

Знамянальнае, што калі адраджалася школа ў Грабаўцы і былі для таго ўмовы, заўсёды вярталася навучанне беларускай мовы. Хаця мова *грабовэцькіх* фанетычна далёкая ад сучаснай беларускай мовы, брала верх аднак гістарычнае самавызначэнне.

Няма *грабовэцькай* школы. Будынак пасля яе, відаць, пакуль будзе пуставаць. Мейма надзею, што не станецца ён чарговым прыстанішчам аматараў піва ды гульбы... Ці станецца зноў калісьці асяродкам народнай асветы? І тут дазволю сабе на мары... Бачыцца мне музей Дубіцкае, Грабавецкае зямлі, у якім айцец Феафіл Краскоўскі, і Скамарох мелі б свае пачэсныя месцы. А таксама нядрэнная месца для правядзення, прыкладна, сустрэч „Зоркі".

А так менш са сферы мараў... Хацеў бы намовіць спадара Славаміра Куліка напісаць летапіс школы ў Грабаўцы — спакон вякоў да нашых дзён. Можна ўжо цяпер пакарыстацца вопытам даследчыкаў беларускага і сярод беларусаў школьніцтва на Беласточчыне: Ю. Туронка, І. Матус, С. Іванюка. Жывуць яшчэ людзі, якія пра факты і цікавінкі з жыцця школы могуць расказаць многа. Захавалася таксама, пэўна, нямала здымкаў. Сёння, а тым больш праз некалькі гадоў, такая праца будзе сапраўды бясцэнная.

**Дарафей Фіёнік**

# У школе ў Орлі

Па арлянскай школе раніцай разыходзіцца прыемны пах з кухні.

— Нічога дзіўнага, — паясняе дырэктар Яўгенія Васілюк, — мы пачынаем урокі ў 7.20, дык кабеты згатавалі ўжо гарбату і кампот, каб дзеці маглі перакусіць прынесеныя з хаты бутэрброды.

Так рана пачынаць заняткі прымушае арганізацыя давозу вучняў. Дзеці з Крывятыч і Шчытоў даязджаюць у школу на гмінным аўтобусе, з Рудутаў і Спічок — на грамадскім транспарце, а мясцовыя і з бліжэйшых вёсак — Кашалёў і Міклашоў — ходзяць пехатою. Пасля першага ўрока чакае ўсіх гарачы напітак.

— Прынялося гэта ў мінулым годзе, — расказвае пані дырэктар, — вучні плацілі па 10 тысяч і грошай на гарбату, цукар, кампот хапала дзесьці на тры месяцы. Амаль усе дзеці ядуць таксама абеды ў школе. Дзякуючы таму, што парабілі мы летам прыпасы, абеды ў нас не толькі смачныя але і танныя — 10 тысяч адзін. У сезон, калі садавіна і гародніна танныя, накупілі мы гуркоў, капусты, цвятной капусты, спаржавай фасолі, слівак, парэчак, а яблык назбіралі ў школьным садзе ў Малінніках. Замарозілі, пасушылі, парабілі марынады і, такім чынам, усю зіму будуць у нас свае вітаміны. Нашай кухняй карыстаюцца таксама вучні і настаўнікі з Маліннік, а мабыць будуць таксама з Крывой.

Напрыканцы канікулаў прайшоў конкурс на дырэктара Пачатковай школы ў Орлі. Выйграла яго Яўгенія Васілюк, якая была дырэктарам дагэтуль і якая перабіралася са школай у новы будынак. Гэта відавочнае прызнанне яе арганізацыйных здольнасцей і працы ў нялёгкі час. Аб кіраўніцтве і працаўніках станоўча сведчыць таксама выгляд школы і наваколля.

— У цяперашні час вельмі важнае супрацоўніцтва з гмінаю, — гаворыць пані Васілюк. — Мы ад нашых гмінных улад патрэбную дапамогу атрымліваем. Войт, каб заахвоціць нас да лепшае працы, павысіў зарплату дырэктарам на 10, а настаўнікам на 5 працэнтаў. Настаўнікі, якія адзначаюцца заангажаванасцю, якія маюць дасягненні ў працы з моладдзю, атрымалі 6-працэнтную падбаўку.

Не менш важнае матэрыяльнае забеспячэнне самой школы. У пачатку навучальнага года самая складаная праблема для большасці дырэктараў, гэта апал. Арлянская школа забяспечана вугалем ужо на цэлую зіму. Дарэчы тут будзе дадаць, што каб ацяпліць гэты гігант — ашчадна — трэба ў суткі тону вугалю.

Найбольш балючае пытанне, як і ва ўсёй усходняй Беласточчыне — адкуль узяць у школу дзяцей. У Орлі ў мінулым годзе было 220 вучняў, а ў гэтым ужо толькі 188. Дванаццаць дзетак з Локніцы і Крывой адышлі ў новаадкрытую школу ў Крывой, астатнія дванаццаць аднак — натуральны дэмаграфічны спад. На пацеху хай хоць застанецца тое, што дзве траціны арлянскіх вучняў — 131 асоба — вывучаюць беларускую мову. **М. В.**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Агонь у сэрцы, а розум у галаве

*(беларуская чарадзейная казка)*

Жыў-быў адзін дапытлівы, цікаўны чалавек. Куды не гляне, нешта ўбачыць і ўсё ў людзей пытаецца: што гэта?, чаму яно такое?, навошта яно патрэбнае? Людзі адказвалі ды тлумачылі ўсялякія справы вясковаму дзіваку. Бывала, што не пад сілу ім пытанні цікаўнік ставіў.

— Колькі не пытай і так дурным памрэш, — адрэзвалі тады людзі.

— Трэба мне ў свет ісці, — сказаў дапытлівы чалавек. — Пайду да яснага Сонейка. Яно ўсё бачыць, усё ведае. Яно мне адкажа, чаму так дзеецца ў свеце.

І пайшоў... Ішоў цэлы месяц аж убачыў дзіва вялікае. На камені сядзіць чалавек ды крычыць і нашага дзівака пытае:

— Дакуль мне тут сядзець прыйдзецца?

— Не ведаю чалавеча. Я сам за навукамі да Сонейка спяшаюся, — адказаў падарожнік.

— То запытай Сонейка, калі з гэтага каменя я ўстану, — папрасіў яго небарака.

— Запытаю ў яго, запытаю, чаму так дзеецца на свеце.

І пайшоў зноў насустрач Сонцу. Па дарозе другога нешчаслівца пабачыў. Стаіць сабе чалавек, падпірае гнілы тын і сам не ведае чаму гэтак робіць. Далей сустрэў жанчын, што ваду ў рацэ пераліваелі. А яшчэ пазней чалавека, які сам не ведаючы чаму ў смецці гробся.

Пайшоў наш дзівак далей, ды як зірнуў праз лес, аж вочы зажмурыў, такі там бляск ззяў. Падышоў ён бліжэй палаца, дзе Сонейка начавала. Горача там было і ясна. Наш падарожнік ледзь не аслеп ад бляску. Увайшоў ён сілком у палац, ды бачыць жанчыну, Сонейка маму.

— Прыйшоў я, каб папытаць Сонца, чаму так дзеецца на свеце.

— Пачакай, аж яно з зямлі вернецца, пачакай у палацы, госціку, — сказала ветліва маці Сонейка і пайшла гаспадаркай займацца.

Здарожаны цікаўнік пакарыстаўся гасцінай, наеўся смакоцця, аж піць захацелася. Пайшоў ён да рэчкі сваю смагу злагодзіць. Толькі схіліўся — а там з вады прыгожая дзяўчына паказалася. Як пабачыў яе наш дзівак, то вачэй ад паненкі адарваць не змог. Быццам укопаны стаіць, пазірае на прыгажуню гэту.

— Не пі гэтай вады, бо цябе Сонейка спаліць, — сказала яму тая дзяўчына. Дый павяла яго пад стары дуб, дзе была крыніца. А хлопцу, колькі б не піў, усё больш піць хацелася.

— Годзе табе, — сказала дзяўчына, — бо ўсё добра ў меру. Ты хочаш усё ведаць, а не ведаеш, што хутчэй выпіць ваду, як усё спазнаць; крыху папіў — жыць будзеш, свету пабачыш, больш розуму набярэшся.

— Трэба мне ў палац ісці, — пачаў развітвацца наш герой, — Сонейка з неба ўжо апускаецца.

— Ідзі, толькі не кажы нікому, што мы сустрэліся, — развіталася дзяўчына і ўзнеслася ўгару ды заблішчэла адтуль яснай зорачкай.

А хлопец у палац прыйшоў, Сонца да сябе заве. Убачыла храбрага малойчыка Сонца ды давай яго з усяе сілы смаліць і пячы. Мур пачаў навокал тапіцца, а наш вандраўнік стаіць і нічога яго не бярэ. Бо вада, якой напаіла яго дзяўчына-зорачка, бараніла яго. Раззлавалася Сонца ды яшчэ мацней пячы пачало. А ён усё роўна стаіць і стаіць. Бачыць Сонейка, няма рады.

— Чаго табе трэба, упарты чалавеча, — папыталася ўрэшце яно.

Расказаў чалавек, чаго прыйшоў, чаму Сонца яснае трывожыць намерыўся.

— Як будзеш усё ведаць, то хутка памрэш, — і блiснула яму Сонца ў галаву.

Тады хлопец пачуў, што многа ўсяго ведае, што галава думкамі гарыць. Але сэрца як лёд асталося. Засумаваў бядняга.

— Хацеў розуму, — дакараў ён сябе, — а душу згубіў!

Пачула гэтыя нараканні мама Сонейка і пашкадавала вандраўніка.

— Памрэш, калі не сагрэеш сэрца, бо без сэрца галава згарыць, — параіла яна.

Здагадаўся хлопец, як нагрэць сэрца. Пайшоў адшукаць дзяўчыну-зарanку. Пачула яна, скацілася з неба і зноў абярнулася дзяўчынай-прыгажуняй. І тады сэрца ў хлопца загарэлася.

Тады наш малойчык зразумеў, што пакуль у яго будзе гарачае сэрца, то і розум у галаве будзе.

Ажаніўся хлопец з дзяўчынай і павёў яе ў свой край.

Ідуць яны, ідуць, аж бачаць чалавека, які смецце перабірае.

— Ой, чалавеча, — кажа хлопец, — ты ў смецці шукаеш згубленыя грошы. Ды дарма час траціш. Ідзі, працуй, больш тых грошай зробіш.

Падзякаваў маладой пары нядаўні перабіральшчык і пайшоў работу шукаць. А нашы маладажоны да жанчын, што ваду пералівалі, падышлі.

— Колькі б вы яе не пералівалі, вада і так вадою будзе, колькі б не гаварылі, то і так нічога не выгаварыце! — павучыў іх чалавек.

Дайшлі і да таго, што тын падпіраў.

— Не падпірай у жыцці гнілое, бо яно ўсё роўна ўпадзе, — сказаў чарговаму небараку.

Нарэшце падышлі да таго, што на камені сядзеў.

— Датуль ты сядзіш, пакуль другі тут сядзе. У жыцці кожны займае сваё месца, — сказаў разумнік і пайшоў свайго месца шукаць.

У роднай вёсцы новую гаспадарку ён пабудаваў, сваё дабро пачаў нажываць. І дзіваваліся людзі, што гэты дзівак так зажыў прыпяваючы. Пачалі яго пытаць пра ўсё. А ён адзін адказ заўсёды меў:

— Трэба берагчы агонь у сэрцы, а розум у галаве! Тады і веды самі да цябе прыйдуць і жыць з табою стануць.

Зорка

## Залатая восень

Восень, восень залатая!  
Лета ў вырай адлятае.  
Клін гусіны, жураўліны  
нясе лета за даліны,  
за лясы, за аблачыны —  
у нябёсах шлях птушыны.  
Мы ж у госці едзем сёння  
да дзядулі,  
бабы Соні.  
У дарозе нас вітае  
восень,  
восень залатая.

Ала Канапелька

## Берасцейская унія

Берасцейская унія — гэта пагадненне, падпісанае ў кастрычніку 1596 г. на царкоўным саборы ў Берасці паміж каталіцкімі і некаторымі праваслаўнымі святарамі Рэчы Паспалітай. Праваслаўныя іерархі прызналі над сабой выключна ўладу папы рымскага, захоўваючы адначасова старыя грэчаска-візантыйскія набажэнствы і рытуалы, а таксама карыстанне юліянскім календаром. За змену веравызнання праваслаўныя епіскапы атрымалі некалькі месцаў у Радзе Вялікага княства Літоўскага, хаця каталіцкія манахі — езуіты, якія рыхтавалі гэтае пагадненне, абяцалі ім сенатарскія крэслы і шэраг іншых прывілеяў.

Не ўсе праваслаўныя епіскапы і святары перайшлі ва уніяцтва. Прыгнятаючая большасць шляхты, мяшчан і сялянства праявіла волю астацца пры свім веравызнанні. Аднак па волі караля Жыгімонта III Вазы і каталіцкіх іерархаў існаванне арганізаваных структур Праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай было забаронена. Праваслаўным адбіраліся храмы, могільнікі, манастыры, царкоўная зямля. Людзі нараджаліся і паміралі без святароў, паколькі не хацелі хрышчэнняў ні пахаванняў ад духоўнікаў іншага веравызнання. У XVII стагоддзі уніяты пры дапамозе дзяржаўных улад і рымскіх католікаў захапілі большасць праваслаўнай маёмасці на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Берасцейская унія спарадзіла новыя рэлігійныя падзелы і новую хвалю варожасці сярод хрысціян, што было супярэчнае з асноўнымі прынцыпамі гэтай рэлігіі.

## Дзеці-спевакі

Прывітанне, сябры! Ці памятаеце яшчэ мінулагодняя свае эстрадныя выступленні? Пэўна і зараз вывучаеце новыя песні для ўсякіх конкурсаў і мерапрыемстваў. Кожны спявак добра ведае, што нялёгка заблiснуць на сцэне. Раней трэба нямала напрацавацца: хадзіць на рэпетыцыі, дакучаць сваімі спевамі ўсёй сям'і, вывучаць словы песень... і пазнаваць беларускую літаратурную мову. Тут запамятайце, калі хочаце спяваць: правільна вымаўляйце ўсе словы песень. Памятайце таксама, што спяваць трэба толькі такія песні, якія вам падабаюцца, а тады напэўна спадабаюцца яны і вашым сябрам.

Зорка

На здымках нашы сябры ☞


Фота Ганны Кандрацюк

Уля Бандарук з Беластока,


Фота АліныВаўранюк

дашкольнік Янка Шэмет з Нарвы



Фота Ганны Кандрацюк

і музыкант Мар'юш Купрыяновіч з Кленік.

# Дзяцінства Яраслава Кастыцэвіча



*Яраслаў Кастыцэвіч* (*каля 1904 г.*)

Хто са старэйшых бяльшчан не ведае Яраслава Кастыцэвіча? Будучы настаўнікам і ў 1946—1965 гадах дырэктарам Беларускага ліцэя ў Бельску, многа клапаціўся, каб беларускія дзеткі і моладзь узрасталі ў ведах ды культурнасці. Шмат іх выбілася пасля на знакамітых людзей. І ўсе з вялікай любоўю яго ўспамінаюць.

А нарадзіўся Яраслаў Кастыцэвіч роўна сто гадоў таму ў Пасынках на Бельшчыне. Тут ягоны бацька а. Васілій быў настаяцелем царквы св. Іаана Хрысціцеля. Свяшчэннікамі ў гэтым храме былі таксама прадзед Яраслава а. Адам ды дзед а. Андрэй. Бацька Яраслава прыйшоў у Пасынкі ў 1887 годзе пасля заканчэння Варшаўскага універсітэта. Два гады пазней на Пасынкі звалілася няшчасце. 5 красавіка 1889 года згарэла царква. Тры гады трывала адбудова. У новую ўжо царкву ў ліпені 1896 г. урачыста быў унесены новы член пасынкаўскай грамады — Яраслаў Кастыцэвіч.

Вельмі ж узрадаваліся а. Васілій ды матушка Сафія з нараджэння прыгожага сына. Не менш цешыўся пэўна і васьмігадовы, старэйшы брат Вячаслаў. Дапамагаў ён дзейсна апекавацца малечай. А калі Яраслаў пачаў шпарка бегаць, разгульваўся з ім па шырокім прыцаркоўным агародзе. Маці ласкавым вокам пагладала за гульнямі хлопчыкаў. Бацька тым часам часта падарожнічаў па Бельскім павеце, дзе з 1896 г. быў наглядчыкам царкоўна-прыхадскіх школ.

Сумна было малому Яраславу, калі ў 1899 годзе яго брацік Вячаслаў выязджаў вучыцца ў Гродзенскую гімназію. І слёзы тады пэўна паліліся. Але, якая была радасць, калі неўзабаве Вячаслаў вярнуўся ў пасынкаўскую плябанію ў форме гімназіста. Айцец Васілій, доўга не чакаючы, склікаў сваіх сынкоў Вячаслава, Яраслава ды народжанага ў 1897 г. Ігара, пасадзіў на брычку ды павёз у Бельск. Хлопцы падарожнічалі ў асаблівае месца. Упершыню ў іх жыцці меў быць зроблены ім сямейны здымак.

У атэлье, што знаходзілася пры вуліцы Шырокай, фатограф М. Юрашайтыс пасадзіў хлопцаў на раскладзісты пянёк. Некалькі хвілін майстар рыхтаваўся да здымка, трымаючы хлопцаў у напружанні. Ігару цярплівасці не хапіла і хацеў пабегчы да бацькі, але Вячаслаў прытрымаў малога. Яраслаў тым часам, выбраўшы як найбольш дастойную позу, сядзеў не варухнуўшыся.

У дарозе дадому Яраслаў яшчэ доўга будзе пад уражаннем перажытага ў атэлье. А якая радасць яго агорне, калі пабачыць сябе на гатовым здымку.

Зусім бестурботнае дзяцінства раней ці пазней мінае. І так, трэба было Яраславу ісці ў школу. А так хочацца яшчэ пагуляць з брацікамі і вясковымі жулікамі, паездзіць на роварку. Да таго, у 1904 г. нарадзіўся новы член сям'і Кастыцэвічаў, плакун Мсціслаў. І ім трэба было таксама заняцца.

У 1906 г. Кастыцэвічам прыйшлося развітацца з Пасынкамі. Айца Васілія Царква накіравала ў Трасцянку ўзначаліць тутэйшую царкоўна-настаўніцкую школу. Тут, дзесяцігадовым хлапчуком, Яраслаў наглядаў за бурлівым асветным жыццём. І можа тады, недзе глыбока ў ягонай душы загарэлася іскра педагога і настаўніка.

Мінуў год, ізноў трэба было пераязджаць. Гэтым разам ужо ў горад. Айца Васілія назначылі настаяцелем найважнейшага храма ў Бельску — Троіцкага сабора. Хаця ў горадзе прыйшлося Яраславу пабываць з бацькам неаднойчы, жыць у ім было нечым зусім іншым. Цяпер іх дом-плябанію часта надведвалі розныя свяшчэннікі, высокапастаўленыя людзі, мяшчане. Вяліся размовы, бурныя дыскусіі. Яраслаў, здаецца, адразу палюбіў Бельск — горад старых драўляных дамоў і царкоўных купалаў. Любіў прагульвацца па Літоўскай і Шырокай вуліцах і наглядаць за жыццём разнамоўнага горада. Улетку бегаў ён пад Дубічы на рэчку. Любіў заходзіць у старажытныя царкоўкі. І калі прыйшлося яму выязджаць на навукі ў Гродзенскую гімназію, затым у Пецярбургскі універсітэт, а пасля быць афіцэрам на франтах І сусветнай вайны, заўсёды ўспамінаў Бельск. І калі толькі паявілася нагода, у 1918 годзе вярнуўся сюды ізноў.

У 1923 годзе, калі ажаніўся з Зінаідай Асташэвіч з вуліцы Дубічы, звязаўся з Бельскам яшчэ мацней. Дом, у якім пражыў свае лепшыя бельскія гады, стаіць на Дубічах да сёння.

**Дарафей Фіёнік**

*Браты Кастыцэвічы (злева): Ігар, Вячаслаў, і Яраслаў.*
Фота са збораў Святланы Кастыцэвіч-Сычэўскай. Рэпрадукцыя Дарафея Фіёніка.

**Ад рэдакцыі:** Можа гэты артыкул прачытаюць старэйшыя, што ведалі асабіста Яраслава Кастыцэвіча. Аўтар звяртаецца з просьбай дасылаць успаміны і здымкі, звязаныя з асобай Я. Кастыцэвіча ў розныя перыяды яго жыцця. У канцы гэтага або на пачатку наступнага года ў Бельску будзе ладзіцца выстаўка „Яраслаў Кастыцэвіч і яго час”. Успаміны пра Я. Кастыцэвіча прапануем дасылаць на старонкі „Нівы”. Лісты аўтар просіць кіраваць таксама на адрас „Нівы”.




*Так выглядаў Бельск у часіны дзяцінства Яраслава. Воддаль відаць Мікалаеўскую царкву. Там сёння стаіць будынак Беларускага ліцэя, збудаваны намаганнямі Яраслава Кастыцэвіча.*

# Крыжаванка № 38

Адгадайце ўсе словы і атрыманы лозунг разам з талонам дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Увага!** Амаль усе словы крыжаванкі выступаюць у сённяшняй „Зорцы”!

1. Напрыклад, Уля Бандарук.
2. Імя дашкольніка Шэмета.
3. Прозвішча Мар'юша, музыканта з Кленік.
4. Чарадзейная ў „Зорцы”.
5. Быў ім герой сённяшняй казкі
6. Стаў ім герой, калі сустрэўся з Сонцам.
7. Сказаў, што Зямля круціцца.
8. Школа, якую заснаваў у Бельску Яраслаў Кастыцэвіч.
9. Прафесія Яраслава Кастыцэвіча.
10. Быў ім бацька, дзед і прадзед Яраслава.
11. Імя старэйшага брата Яраслава.
12. Там бацька Яраслава ўзначальваў царкоўна-настаўніцкую школу.
13. Імя малодшага (на здымку) брата Яраслава.
14. Так раней называлі ліцэй.
15. Горад, дзе дажываў Я. Кастыцэвіч.
16. Там нарадзіўся Я. Кастыцэвіч.





Талон „Зоркі” № 38
22.09.1996

# Вышаградская панарама

*(працяг са стар. 1)*

Чэхі прывыклі жыць не звяртаючы ўвагі на прысутнасць акупантаў на іх зямлі, але 3 мая 1945 г., зараз пасля капітуляцыі Берліна, з увагі на патрэбы бягучай палітыкі, сарганізавалі паўстанне супраць рэштак гітлераўскай арміі, якая паспяхова паўстрымоўвала вызваленчую місію савецкіх войск. Сёння імёны і прозвішчы пару дзесяткаў загінуўшых змагароў, запісаныя вялікімі літарамі на бронзавай табліцы на сцяне пражскай ратушы, інфармуюць усяму свету пра барацьбу чэхаў з нямецкім фашызмам. У адрозненні ад палякаў, чэхам не прыйшло ў галаву здымаць помнікі і мемарыяльныя дошкі, прысвечаныя памяці савецкіх войск, якія вызвалялі іхнюю краіну.

У 1968 г. чэхі вырашылі праверыць, ці „вялікі савецкі брат" і іншыя, меншыя „братнія народы" не будуць мець нічога супраць іх адлучэння ад сацыялістычнай кампаніі. Рэакцыі сяброў былі адмоўныя і чэхі вырашылі чакаць аж лагерная кампанія паразумнее. У 1989 г. нанава і паводле сваіх пажаданняў пачалі яны будаваць свой дом. Калабарацыяністаў з апарату „інтэрнацыянала" паслалі на дваццацігадовы адпачынак, славакам, згодна з іх марамі, дазволілі ісці сваім шляхам. Без дэманстрацый і крыку на ўсю Еўропу зноў сталі дэмакратычнай дзяржавай, а прэзідэнтам выбралі чалавека, з якім ахвотна сустракаюцца першыя палітыкі свету.

* * *

Сталіца Чэхіі, Прага — гэта горад, у якім большасць вуліц памятае эпоху Яна Гуса. Каменная паверхня вуліц з XIV стагоддзя дасканала вытрымоўвае рух сучасных аўтамабіляў. Там, дзе гэта было неабходнае для вулічнага транспарту, пакладзены былі трамвайныя рэйкі. Камяніцы Старога Горада ці Градчанаў прадстаўляюць сабой сапраўды казачны свет. Гатычная архітэктура пераплятаецца там з рэнесанснай, класіцызм мяжуе з барока, але найчасцей знешнія ўпрыгожанні мяшчанскіх палацаў прадстаўляюць сабой вынік уплыву некалькіх еўрапейскіх архітэктурных плыняў. Мадэрнізм, аднак, у сталіцы Чэхіі з'яўляецца перыферыйным стылем.

Цэнтр Прагі, Градчаны і Вышаград — гэта перш за ўсё арыгінальная архітэктура XI—XVII стагоддзяў. Зразумела, была яна і ёсць пастаянна рэстаўраваная. Градчаны, дзе знаходзіцца месца працы прэзідэнта Гавела, гэта гара, з якой відаць поўную панараму сталіцы Чэхіі. Стары Горад спалучае з Градчанамі каменны Карлаў мост, пабудаваны ў палове XIV стагоддзя. Мост прызначаны выключна для пешага карыстання. Безупынна знаходзіцца на ім пару тысяч разнамоўнага натоўпу. Зрэдку чуваць там чэшскую мову, не чуваць увогуле польскай ці расейскай. Дамінуе нямецкая. Дарэчы, амаль кожны чэх размаўляе на гэтай мове, а гісторыя іх краіны як бы поўнасцю апраўдвае такія асаблівыя сувязі.

Градчаны — гэта гара, квартал горада і архітэктурны ансамбль адначасова. Касцёл св. Віта відаць у Празе амаль так, як Палац культуры і навукі ў Варшаве. Першыя муры раманскай кафедры з XI ст. зліваюцца ў адзін комплекс з гатычнай глыбай, сімвалізуючай трыумфалізм новай чэшскай дынастыі Люксембургаў.

Менш імпазантна выглядае змена прэзідэнцкай варты на Градчанах. Адбываецца яна найчасцей у прысутнасці пару тысяч турыстаў, а салдаты не надта стараюцца пераскочыць воінскую дасканаласць свайго слаўнага суродзіча, імператарскага жаўнера Швейка.

Пішучы пра Прагу, немагчыма не ўспамянуць пра першапачатковую сталіцу чэхаў (цяпер квартал Прагі) — Вышаград. На высокім скалістым беразе ракі Влтавы ўжо ў X ст. стаяў замак, раманскія ратонды, пакладзены былі каменныя вуліцы. Старажытнае гарадзішча акружалі невераголдныя велічныя муры. Сёння з тае эпохі асталіся толькі муры і астаткі ратонды св. Марціна з XI ст. Унутры антычнай крэпасці ў большасці помнікі ўжо навейшай архітэктуры з XVI—XIX стагоддзяў. Панарама з вышаградскіх муроў паказвае перш за ўсё гарманічнасць таго, што стварыла прырода і рука чалавека на працягу амаль тысячы гадоў чэшскай цывілізацыі. Адсюль відаць непаўторны краявід — Влтавы, яе астравоў і мастоў, якія спалучаюць абедзве часткі горада.



Сацыялістычную Прагу з шэрымі будынкамі і касмічным краявідам чэхі будавалі на ўскраінах горада. Варшаўска-менскага стылю амаль не заўважаецца ў цэнтры іх сталіцы.

* * *

Прага адыграла таксама немалую ролю ў гісторыі беларусаў. У гэтым горадзе напрыканцы 1920 г. была склікана нарада беларускіх партый і арганізацый, якая вырашыла змагацца з акупантамі Беларусі. У палове дваццатых гадоў знайшлі тут прыстанішча ўлады Беларускай Народнай Рэспублікі. Там таксама знаходзяцца магілы нашых палітыкаў і стваральнікаў культуры.

Гэты незвычайнай прыгажосці горад я таксама змог пазнаць дзякуючы ветлівасці спадарства Кастуся і Тамары Бандарукоў з Беластока, якіх лёс кінуў жыць і працаваць у сталіцы Чэхіі. За два дні мы прайшлі разам пару дзесяткаў кіламетраў сярод завілістых і крутых вулічак Прагі. Аднак падчас вячэрніх размоваў думкамі былі мы на нашай Беласточчыне. А ёсць аб чым думаць беларусам на пражскім бруку.

**Яўген Міранові**ч

# Мая вайна

**Пра вайну 1939 г. расказвае Пятро КІСЕЛЬ — 89-гадовы жыхар вёскі Чорная-Вялікая Гродзіскай гміны.**



*Аўтар успамінаў у трыццатых гадах.*

У войска прызвалі мяне ў 1929 годзе. Пасля сямі гадоў бежанскай адысеі і шасці гадоў сіроцага парабкоўства адкрылася перада мною новая старонка жыцця. Адслужыўшы паўтара года, застаўся я ў войску ў якасці прафесійнага падафіцэра. У 1930 годзе закончыў я унтэрафіцэрскія курсы з выдатным вынікам, у 1934 г. — інструктарскія, а ў 1939 г. — сяржанцкія. Увесь час служыў я ў 22 Пяхотным палку ў Седльцах.

Служба ў войску давала мне не толькі матэрыяльную падставу для дастатняга ў тадышніх умовах жыцця, але і прыносіла задавальненне ад паспяхова выконваемых абавязкаў. Вучыўся я хутка і добра, карыстаўся пашанай як у салдат, так і ў начальства. Спачатку камандаваў я ўзводам, а пасля стаў шэфам роты разведкі. Даслужыўся звання *плютановага*. Не хаваўся я са сваёй нацыянальнасцю і веравызнаннем. Быў у нас свой капелан і малая царкоўка ў прыватнай кватэры ў горадзе, якую мы наведвалі. Я часта бываў і ў касцёле, куды вадзіў сваіх салдат у нядзелі і дзяржаўныя святы на набажэнствы. Мае службовыя поспехі нярэдка выклікалі зайздрасць у польскіх калег, якім было не даспадобы, што праваслаўны беларус перамагае ў прафесійных спаборніцтвах. Памятаю, як нядобразычліўцы данеслі, што я — рускі шпіён. Мой камандзір, палкоўнік Міхальскі, не паверыў даносчыкам. Сказаў ён, што шпіён не трымаў бы грошай у мясцовым банку. А я ашчаджаў, заносіў грошы ў банк (не раз сустракаў я ў ім свайго камандзіра), каб потым дапамагаць братавай сям'і на вёсцы. Дзякуючы маёй дапамозе, брат пабудаваў дом, хлявы, купіў манеж і веялку.

У маі 1939 г. наша часць выехала ў мясцовасць Каранова каля Быдгашчы. Там фармавалася армія „Памор'е" генерала Уладыслава Бартноўскага. Мы апынуліся ў складзе дывізіі, якой камандаваў палкоўнік Варабей. Змагаліся мы з немцамі на Куявах. Разбілі нас 20 верасня ў ваколіцах гарадка Коваль каля Бжэсця-Куяўскага. У гэты трагічны момант я зноў адчуў недавер да маёй асобы з прычыны веравызнання. Трэба было прабіцца ў штаб арміі са сцягам нашай часці. Спачатку для выканання гэтага задання назначылі мяне, але калі нехта прыгадаў, што я — праваслаўны, справу даручылі некаму іншаму. Пасля паражэння афіцэры прабавалі арганізаваць з ацалелых салдат батальён, якім меў камандаваць адстаўны палкоўнік, але немцы зноў нас абстралялі і стала для нас ясна, што нам вайна закончылася. Сталі мы прабівацца на ўсход, у родныя мясціны. Я пайшоў з двума паручнікамі. Ішлі мы галоўным чынам ноччу, хаваючыся ўдзень па лясах. Быў я сведкам, як немцы расстралялі цэлы ўзвод лётчыкаў, хаця тыя здаліся ім без бою.

Каля Модліна памяняў я зброю, бінокль і абмундзіраванне на цывільную вопратку. Гэту здзелку зрабіў я з высокім функцыянерам Саюза польскіх настаўнікаў, які прабываў у гэтых ваколіцах. Цяпер падарожжа стала хутчэйшым, паколькі можна ўжо было вандраваць і ўдзень. Цераз Віслу пераправіўся я ў ваколіцах Варшавы і за тое лодачніку трэба было заплаціць 5 злотаў. У Мінску-Мазавецкім былі немцы, але людзі гаварылі, што ў Седльцах стаяць ужо саветы.

З Мінска-Мазавецкага ў Седльцы дабраўся я на дрызіне, на якой прадпрымальныя юнакі ехалі ў пошуках безгаспадарных цыстэрнаў з бензінам. Паводле іх інфармацый, знаходзіліся яны на запасных пуцях пад Седльцамі. У Седльцах пераначаваў я ў знаёмага. Ён сказаў мне, што на мастах і галоўных дарогах стаяць савецкія пасты і параіў перабірацца праз раку Лівец па слупах старога разабранага моста. Саветаў сустрэў я ў Папротні. На дарозе стаяў пост і байцы завярнулі мяне назад. Калі я хацеў пайсці праз поле, таксама мне не дазволілі. Тады я запатрабаваў завесці мяне ў штаб. Неўзабаве з'явіліся капітан і палкоўнік. Я расказаў ім па-руску, што вяртаюся з вайны і хачу дабрацца ў родную вёску. „Вы — белорус?", — папытаўся палкоўнік і, атрымаўшы сцвярджальны адказ, загадаў салдатам пераправесці мяне цераз пост.

Пачаўся ўжо кастрычнік. Ішоў я ў напрамку Драгічына. Дакучалі стома і голад. Пераходзячы цераз вёскі, разглядаўся я, у якой хаце ідзе дым з коміна. Заходзіў я тады ў такую хату і прасіў даць паесці. Людзі найчасцей не адмаўляліся накарміць незнаёміца. У Драгічыне зноў я меў дачыненне да саветаў. Зайшоў я ў адзін дом папрасіцца на начлег. Гаспадары згадзіліся, але неўзабаве прыйшоў афіцэр, які прывёў сюды на начлег чырвонаармейцаў, і загадаў мне выйсці з гэтага дома. Тое ж самае было і ў другім доме. У адчаі сказаў я савецкаму камандзіру: „Скажнте, где мне переночевать? Ведь же и у собаки есть своя конура, а вы меня всё прогоняете". У канцы дазволілі пераначаваць. З Драгічына да Чорнай-Вялікай крыху больш за дваццаць кіламетраў. Астаўваўся адзін дзень хады. Астаткам сіл дайшоў я да Малінова. Засталося яшчэ тры кіламетры. Зусім абяссілены, з пакалечанымі ступнямі, на карачках прыпоўз я ў вёску.

Як прафесійны польскі салдат баяўся я рэпрэсій з боку саветаў. Але Бог даў, што мяне не вывезлі, а толькі прызвалі на ваеннае абучэнне, якое праходзіла ў лесе каля Такароў. Пасля ўладкаваўся я на кафлярню ў Сямятычах, дзе да нямецка-савецкай вайны 1941 года працаваў бухгалтарам.

Запісаў **Віталь Луба**

# У Храбалах цвілі ружы...

**— Ці ідзе ў нас да лепшага? — задумоўваецца Аляксей Паўлючук, селянін з прышасэйнай, гміннай вёскі Храбалы. — Ніхто ў нас лепшага не бачыць. То значыць... Мо язык вальнейшы. Але я і тады гаварыў, што хацеў.**

**— А дзе вы бачылі, каб селяніну было добра?! — больш сцвярджаюць, чым пытаюць яго аднасяльчане, што прыселі адпачыць на вуліцы спасаўскім адвячоркам. — У нас прадукты купляюць танна, а прадаюць іх дорага. Няма радасці ні нам, ні рабочым у горадзе. Пакуль тавар дойдзе да ўласцівага спажыўца, у тры разы падаражэе!**

**— А вунь тую новую вілу хто адгрохаў? — не здаюся я.**

**— Э-э-э, тую вілу, — у адзін голас пярэчаць мне сяляне, — „Бельгія" пабудавала...**

* * *

Алёшка Паўлючук, маладзенькі трактарыст з Піліпак, якраз араў поле ў Храбалах, калі прыгледзелася яму Сідарава Зінка, да якой прыстаў у прымы ў тым жа годзе. Сідара Хілько, яе бацькі, вядомага ў бліжэйшым і далейшым навакольлі гаспадара, ужо не было ў жывых, калі яны ў 1954 годзе бралі шлюб, а дзве бабы — маці і дачка — не ведалі, за што тут рукі зачапіць.

Сідар Хілько да вайны быў адзіным чалавекам у Храбалах, які меў радыё і рэгулярна выпісваў агратэхнічную літаратуру.

— Усе кніжкі цесця — яшчэ санацыйныя, — усе яны акуратна ляжаць на гарышчы. Можна паглядзець! — ганарыцца Аляксей Паўлючук. І дадае, што „Ніву" яны чытаюць ад першых яе нумароў, якія выйшлі ў пяцьдзесят шостым годзе.

Гаспадарку маладыя Паўлючукі збудавалі сучасную і моцную, такую, як і былі яны самі. Мелі дваццаць сем гектараў зямлі, пару трактароў, усе патрэбныя ў гаспадарцы машыны, сваю легкавушку. У хлявах стаяла, як правіла, каля трыццаці кароў. Свае свінні былі, авечкі, пчолы. Па панадворку хадзілі куры і дзіўныя качкі-бамбавозы нейкай ці не канадскай пароды. Была гэта найбольшая гаспадарка ў Храбалах. Пры дбайных гаспадарах усё расло велізарнае, дабротнае.

— Да мяне ўсе людзі прыязджалі глядзець, а нават цэлыя экскурсіі. Заглядалі і ў хлявы, і так цэлую гаспадарку аглядалі. Мы былі на першым месцы ў вёсцы. Цяпер ніхто намі, вяскоўцамі, не цікавіцца. Раней былі датацыі, аграномы прыязджалі, раілі — што і як пасеяць, каб былі талковыя плёны. Давалі нам штучныя ўгнаенні, і прэмію пад Новы год я заўсёды атрымліваў. А цяпер дык нібы ў космасе чалавек жыве...

Калі гадоў дваццаць таму старэйшы сын Паўлючукоў, таксама Алёшка, падаўся ў Кракаўскую мастацкую акадэмію, яшчэ бацька не хваляваўся. Мастакі і тут, на Беласточчыне патрэбныя. Але дзе там ён табе вернецца, калі ўзяў жонку-кракавянку! Таксама мастачка, асістэнтка ў акадэміі. Сам працуе ў суполцы, ды выкладае ва універсітэце.


*Спасаўскім адвячоркам на храбалоўскай вуліцы.*

Думалі, што сярэдні Віталь пяройме гаспадарку. На яго найбольш разлічвалі і ў яго верылі, бо трэці сын, Міраслаў, быў яшчэ дзіцём. Ажаніўшыся з праваслаўнай дзяўчынай з падзавыкаўскай Фермы, Віталь у Храбалах паспеў падгадаваць трох дачушак. На гаспадарцы яго праца была проста бясцэнная, ды і бацька быў спакойны, што будзе яна калісьці ў надзейных руках, бо менавіта Віталь меў закончаную сельскагаспадарчую школу.


*Аляксей Паўлючук з унукамі Маркам, Дар'яй і Івонкай.*

Але што ж, калі пераехалі яны ў Бельск, як толькі атрымалі кватэру, на якую калісьці ўплаціў бацька.

Аляксей Паўлючук з нейкай тугой гаворыць пра кінутыя маладымі бацькоўскія гоні, так мілыя і блізкія яго сялянскаму сэрцу. Ім жа — без рэшты — ён прысвяціў сваё жыццё, з імі было яму радасна і бяспечна.

Мо ўсяму б яшчэ далі рады, калі б не захварэла жонка. Шмат часу праводзіць яна ў бальніцы, а ўся праца на гаспадарцы тады звальваецца на гаспадара і наймалодшага сына з жонкай, якія жывуць у Храбалах, а працуюць у Бельску. Ён — шафёрам, яна — у ЗУСе. Цяжка рабіць на гаспадарцы пасля працы. Гараджанін дык пасля працы адпачывае. Але робіць, бо іншага выйсця няма.

Аляксей Паўлючук год таму распісаў гаспадарку на трох сыноў. Але, кажа, раблю, як і рабіў, хаця ўжо другі год на рэнце. У нашай вёсцы нераніцтаў амаль няма. Мо двое ўсяго на 37 двароў. Яшчэ сёння маем 20 гектараў зямлі. Пасадзілі на 80 сотках бульбу, з сямі гектараў сабралі ўсё сена, на шасці гектарах поля сеялі збожжа: жыта, пшаніцу, авёс. Прадаем усю пшаніцу — сыну новы дом трэба памагчы закончыць. Яшчэ і цяпер маем дванаццаць кароў, дзве ялоўкі, чатыры бычкі, тры свінні, дванаццаць індыкоў, нават яшчэ адзін вулей застаўся. Малака ў дзень каля 150 літраў прадаем. Бярэм за яго каля 15 мільёнаў у месяц, а не будзе цялят — то будзе яшчэ больш. Так што, можна сказаць, гаспадарка ў нас пакуль нармальная. Во каб жонку падлячылі! Яе цяпер лечыць у Беластоку такі маладзенькі лекар. Ён, хаця і малады, але такі талковы! Я так думаю, што, мусіць, беларус.

У нас у вёсцы ўсе былі праваслаўныя, кажа гаспадар. Цяпер ужо крыху палякаў ёсць. Адны прыехалі з Трычоўкі, пабудавалі дом і жывуць тут, другія купілі хату на лета, прыязджаюць на уік-энды. Але так, здаецца, гжэчныя людзі, „Дзень добры!" кажуць. І яшчэ нехта хоча купіць дом.

Як жа Аляксей Паўлючук бачыць будучыню сваёй вёскі? Цікавага, кажа, нічога пакуль няма! Людзям цяжка. Некаторыя не маюць чым заплаціць за камбайн, а нават і на яду не хапае. Ніхто не пераняў новых метадаў гаспадарання, не стаў фермерам.

А тыя ружы на раздарожжы, якія нявестка Геня, стаўшы солтысам у вёсцы, калісь пасадзіла, ці яшчэ ёсць? О-о-о! Калісь цвілі ў нас ружы, але ж іх трэба даглядаць... Дык я скасіў іх, елкі пасадзіў. І зноў непрыкметны сум на момант прабягае па твары селяніна.

Але калі пацяшае ён суседа, дзеці якога таксама кінулі зямлю, што „шчэ прыедуць по кусок хлеба до тэбэ", адзываецца ў ім гонар хлебароба, уладара зямлі і стваральніка самага каштоўнага для чалавека — хлеба. І цешыцца ён, што хоць захмурылася крыху неба над яго сям'ёй і гаспадаркай, то ўсё ж прабіваюцца праз іх промні сонца. Цешыцца, што ў свае 63 гады ўсё яшчэ можа зрабіць сам, што ў хуткім тэмпе расце мураваны, двухпавярховы дом наймалодшага сына, а найбольш, што 14-гадовая ўнучка-кракавянка Дар'я, прыехаўшы да іх на вёску пасля падарожжа ў Італію, сказала: „Больш у тую Італію не паеду, буду штогод прыязджаць летам у Храбалы!"

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# „Каралеўскім указам не стрымаць жабракоў"

Першы раз пашанцавала мне прайсці хаця частку вандроўкі тэатра „Жывое слова". Студэнцкая трупа з Мінска вандравала па Беласточчыне ўжо шосты раз.

Як расказваюць ветэраны вандровак, кожная з іх іншая. Гэтым разам вандравалі па Арлянскай гміне. Ішлі з вёскі ў вёску, даючы два спектаклі ў дзень. Якраз быў час жніва і занятыя земляробы не заўсёды мелі час пацешыцца выступамі маладых акцёраў. Ды наогул складваецца ўражанне, што людзі па вёсках ніякога і нічога ўжо не чакаюць. У ніводнай вясковай святліцы, дзе мне давялося пабываць, няма лавак. Гледачы мусілі стаяць па паўтары гадзіны. Бо гледачы ўсё-такі былі. У больших вёсках не толькі пажылыя, але і моладзь, як у Кашалях. У Маліншках склалася так, што якраз моладзь была ў значнай колькасці. На дзіва, маладыя гледачы добра разумелі ўсе тонкасці літаратурнай мовы. Усё ж такі навучанне гэтай мовы дае вынікі.

Праграма спектакляў усюды была крыху іншай, але заўжды складалі яе песні, вершы і сцэнічныя жарты. „Жывое слова" мае ў сваім рэпертуары і „сур'ёзныя" пастаноўкі: „Малога прынца" Антуана Сент-Экзюпеця і дзве паводле Уладзіміра Караткевіча — „Леаніды не вернуцца да Зямлі" і „Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Усё-такі на Беласточчыне паказваюць складанкі, каб кожны, хто прыйдзе ў залу, знайшоў нешта для сябе. Тым не менш варта было б падабраць асобны рэпертуар на вандроўку па Беласточчыне, асабліва па Падляшшы. Ёсць жа многа мастацкіх твораў на паляшуцкай гаворцы, з праславутай „Пінскаю шляхтай" Вінцука Дуніна-Марцінкевіча. Пэўне ж добра ўспрымаліся б тут і тэксты на старабеларускай мове.

Усё ж такі рэпертуар не такі і важны. У вандроўцы лічыцца перш за ўсё радасць ад супольнага вандравання. Няспешлівыя пераходы з вёскі ў вёску, стыхійныя рэпетыцыі, сяброўскія жарты. Кожны з акцёраў вельмі сур'ёзна падыходзіць да сваіх выступаў, хвалюецца да іх, і перажывае пасля. Як сказаў кіраўнік „Жывога слова" Юрка Чарэнка, перасталі забіраць на вандроўку тых, хто не прадугледжваўся да выступаў. Проста такі хтось згарае ад хвалявання, не могучы выступіць, дый часам зусім пакідае тэатр.

Калі глядзіш на дзяўчат і хлопцаў з „Жывога слова", дзіву даешся, як хутка памянялася беларуская моладзь за апошнія гады. Прапала недзе кляймо савецкасці, якое відавочна адціскалася на маладых беларусах яшчэ на пераломе васьмідзесятых і дзевяностых. Студэнты з „Жывога слова" ў вачах маюць заходніцкую адкрытасць. А „Новую зямлю" хлопцы скандуюць у рытме „рап" так натуральна, быццам бы яна да таго „рапу" і створана. Безумоўна, яны сапраўды першае вольнае пакаленне. Алег на губе мае чатырнаццаць швоў, ды яшчэ чатыры на затылку. Гэта памятка ад „ахоўнікаў парадку", якім не даспадобы прыйшліся Алегавы жарты з прэзідэнта. Юрку затрымалі на пастарунку толькі за тое, што гаварыў на вуліцы па-ўкраінску, на мове свайго бацькі. Хіба ж дзіўна, што „перавоспітаная" такім чынам мінская моладзь запаўняе рады дэманстрантаў?

Шкада толькі, што „Жывое слова" вандравала амаль самотна. Толькі на пасобныя спектаклі даязджалі ветэраны „Парнаса" і „Балагана". Відавочна не хапае нам маладзёжнага тэатра, але ёсць надзея. Арганізатар вандроўкі Янка Мордань заявіў, што пасля прыдзягватага „водпуску" думае зноў узяцца за справу.

Затое вяскоўцы віталі артыстаў ад душы. Усюды (апрача Волькі-Выганоўскай) знаходзіліся ахвотныя ўзяць іх на начлег, накарміць і напаіць. Незвычайна гасцінна прымаў „Жывое слова" арлянскі войт Міхал Іванчук. Вітаў на мяжы сваёй гміны, а на развітанне правёў аж но ў Беласток.

„Каралеўскім указам не стрымаць жабракоў". Гэтыя песенныя словы лягаць за маладымі людзьмі, якія няспешліва ходзяць па вёсках з жывым словам. І так хочацца, каб гэтая вандроўка была бесканечнай.

**Алег Латышонак**

# Душы адтайваць умеюць

**„Ліцьвіны" — самая бліскучая зорка беларускай фальклорнай сцэны. Гэты вакальна-інструментальны гурт заварожвае не толькі чароўнымі песнямі, што дыхаюць хараством, пачуццямі і бязмежнай прасторай, але і мелодыямі, ахутанымі імглой старажытнай Беларусі. Гурт — спалучэнне прыгажосці, маладосці і прафесіяналізму.**

**Уладзімір Бярбераў** — заснавальнік і музычны кіраўнік „Ліцьвіноў", па бацьку балгарын і князь, па маці беларус і энтузіяст сапраўднай беларускай культуры.

Як узнік гурт „Ліцьвіны", жамчужына сярод яркай, банальнай савецчыны? Чаму маладыя людзі пачалі сьпяваць фальклор інакш як усе т.зв. *калектывы?* Уладзімір Бярбераў не скрывае, што т.зв. „беларускі фальклор" не рабіў на ім ніякага ўражання. Было нават горш.

— Калі па радыё перадавалі народную музыку, я сцішаў радыёпрыёмнік, — прызнаецца мой субяседнік, — бо гэта цяжка было слухаць!

Але ў 1985 годзе паехаў ён на Гомельшчыну. Кіраўніцтва тэлевізійнай праграмы даручыла яму запісаць „нешта цікавае і з фальклору". Для аздаблення перадачы, дарэчы. У. Бярбераву падшукалі 80- і 90-гадовых аўтахтонаў і заставілі „творча папрацаваць".

— Калі гэтыя старыя пачалі спяваць, — успамінае заснавальнік „Ліцьвіноў", — то я не мог надзівавацца. Я ўпершыню пачуў, як павінен гучаць фальклор. Мае старэчы спявалі да першай уначы. Іх песні так мяне ўразілі, што я падумаў: гіне такое мастацтва і няма нікому да гэтага ніякай справы.

Паездка на Гомельшчыну сталася гістарычным момантам у біяграфіі У. Бярберава. Тады ўзнікла думка, каб у Беларусі стварыць такі гурт, які сапраўды спяваў бы народныя песні.

— І каб я мог з асалодай слухаць фальклор па беларускім радыё, — смяецца мой субяседнік і дадае, што пра сябе тады як спевака яшчэ не думаў. Але пачутыя на Гомельшчыне песні не давалі спакою. Калі У. Бярбераў сам пачаў запяваць запісаныя сабой песні, зразумеў, што і ён можа стварыць фольк-гурт з гістарычнай назвай „Ліцьвіны".

**Наталька Захаранка** і **Алена Шэўчык**, галасістыя вакалісткі, прыйшлі ў „Ліцьвіны" з багатым рэпертуарам народных песень. Абедзве дзяўчыны родам з паляшуцкіх печўых сем'яў.

— У нас спявалі і бабулі, і прабабкі, усе, — адзначаюць таленавітыя вакалісткі.

Можа таму іх галасы ўмела выспеўваюць і людскае гора, і радасць, і журботу. Абрадныя песні, якія так рэдка ўжо сустракаем, у выкананні Наталлі і Алены так задушэўныя і прыгожыя, што ўражваюць да слёз. Часам і паверыць цяжка, што так чароўна спявалі продкі сённяшніх беларусаў, што выяўлялі такую глыбокую жыццёвую і касмічную мудрасць. Спевакі гурту „Ліцьвіны" самі запісалі многа песень ад старажылаў. Дапамагалі ім у гэтым і сябры не звязаныя з гуртом. Самыя старажытныя, абрадавыя песні зачэрпнуты з этнаграфічных зборнікаў. Адзначыць варта, што рэпертуар „Ліцьвіноў" вылучаецца жывой моваю, насычаны ён гаворкамі і дыялектнымі моўнымі асаблівасцямі. Адразу можна пачуць у такой песні рэгіён і яго жыхароў. Таксама касцюмы спевакоў неаднолькавыя. Моду на „дзіўную і непаўторную" эстэтыку нацыянальнага адзення прыдумалі савецкія эстэты і праектанты. У „Ліцьвіноў" няма шаблону, усе вопраткі іншыя, хаця супадаюць у адну танацыю. „Ліцьвіны" не былі б сабою, калі б не інструментальная частка. Сам Уладзімір Бярбераў адшукаў больш за сто забытых этнаграфічных беларускіх інструментаў. Яго аўтарству належыць адзіная ў свеце выстаўка ў Заслаўскім музеі народных інструментаў. Для „Ліцьвіноў" аўтэнтычнасць інструментаў святая. Цымбалы, гонар фольк-гурту, выкананы Максімам Такушэвічам.

— Яшчэ другія цымбалы, — паясняе У. Бярбераў, — выкананы Пятром Скабеем. Яны з іншага рэгіёна і ў іншых традыцыях. Кіраўнік „Ліцьвіноў" адшукаў забыты ўжо петраградскі гармонік. Паходзіць ён з канца XIX ст. „Ліцьвіны" карыстаюцца яшчэ кларнетам, бубнам, скрыпкай, акардэонам, дудой і жалейкай.

— Калі Бог пашле нам спонсара, — марыць У. Бярбераў, — мы набудзем акардэон у беларускай віленскай традыцыі і аўтэнтычны, беларускі кларнет. „Ліцьвіны" мараць таксама пра кампактны запіс, які памог бы ім прабіцца ў шырокі свет. Апрача згаданых асоб у „Ліцьвінах" спяваюць і іграюць: Таццяна Смірнова (скрыпка, вакал), Юзаф Міхайлоўскі (акардэон), Павел Захаранка (бубен, вакал), Святлана Верамейчык (цымбалы), Ігар Пятроў (вакал, кларнет) і Міла Карсека (вакал). Пачалі яны спяваць у 1991 годзе. Тады было ім цяжка. Мала хто з савецкай публікі цікавіўся аўтэнтычным фальклорам. Людзі прывыклі да савецкай, каляровай і эфектнай эстрады.

— А мы не здаваліся, — гавораць спевакі, — і за пяць гадоў існавання нажылі сабе публіку, выпусцілі тры магнітафонныя касеты, пабывалі на Захадзе. У чэрвені г.г. гурт выступаў на рок-канцэрце і моладзь не адпускала іх са сцэны.

І на Беласточчыне „Ліцьвіноў" слухае беларуская моладзь. Пад іх магутным уплывам завязаўся бельскі маладзёжны фольк-гурт „Падляшукі". Песні „Ліцьвіноў" спявае таксама „Чарамшына" з Чаромхі і польскія мастакі і акцёры з сэйнэнскага асяродка „Пагранічча". Толькі ў беларускіх радыёперадачах і далей чуваць пераважна шэдэўры бэгэкатоўскіх фэстаў. Шкада. Тым больш, што „Ліцьвіны" спяваюць многа паляшуцкіх і падляшскіх песень. Але Уладзімір Бярбераў суцяшае. Гаворыць, што культурны генафонд беларусаў „кудысьці" далёка загнаны. Але душы ўмеюць яны адтайваць. І людзі зноў хочуць пазнаваць сваё роднае, сапраўднае.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*„Ліцьвіны" ў час ЗБМаўскага Купалля. Ліпень 1996 г.*

# На злосць павешуся!

**У вёсцы Хамуткі, кажуць людзі, усім як у фільме: чатыры пахаванні і адно вяселле. Гэта так, для добрага пачатку тэксту. Бо напэўна статыстыка намнога горшая, калі справа ў шлюбах.**

А і тое сужонства, на якога вяселлі нагулялася ўволю ўся аколіца, бо і дармовае *disco polo* было ў сьвятліцы, не прынесла ніякага выніку. Бо плод сямейнага кахання — дзеці, наступнікі ў гаспадарцы, новае пакаленне, падтрымка на старасць.

Міхал Буй меў шчасце. Нарадзіўся здаровы і прыгожы, у прыстойнай, працавітай ды багатай сям'і. І розуму яму хапала — у школе не быў апошні, закончыў сярэднюю. Бацькі намовілі яго вярнуцца на гаспадарку, бо і каму мелі яе пакінуць, як не адзінаму сыну?

І дзяўчыну ўдалося яму знайсці, праўда, не з вёскі, а з мястэчка, але не пабаялася ісці на гаспадарку. Спадабалася Галіне і Міхалава сям'я, і гаспадарка, і вёска, згодная і акуратная. Міхалава гаспадарка была поўнасцю змеханізаваная, то і не было так шмат рабіць, а грошай хапала. І свякруха яе любіла з узаемнасцю.

Вяселле згулялі чатыры няпоўныя гады таму.

— Яшчэ памятаю, — кажа Маланея Шырочка, — як я, старэча, нагулялася! Кавалераў хоць гаць гаці, а я танцаваць люблю, ой, люблю! А падарункаў надавалі! Калі ў грашах, то менш мільёна цяпер устыдна даваць. Калісь то дасі палок палатна ці абрус, вядома, усё ж рукамі рабілі, дый хопіць. Цяпер, вядома, калі падарунак, то толькі купны. І кветкі мястовыя, не з гародчыка. Я ведаю, што ўсё праз тую гартэнзію, што Тарэска ім прынесла. Толькі нікому не кажэце, што гэта я вам гаварыла. Чом? Каб мяне пакруціла?! Ці яна чараўніца? Напэўна, трохі *ведае*. Я, старая, не адно бачыла за сваё жыццё. Яна вось ім прынесла толькі гартэнзію ў падарунку. Вялізная, кветкі буйныя, ружаватыя. Зарасла ім усё акно, перасадзілі яе ў агарод. Людзі глядзелі, як на дзіва нейкае, на тую кветку-велікана. У царкве мне аж у сэрцы кальнула, як убачыла, што Тарэска стаіць з тым вазонам, бо аж туды яго спачатку завалакла. Я думала, што яна гартэнзію для аздобы царквы прынесла, ці што. А як убачыла, што Мішава свечка гасне, то прадчула благое. Ой, не, не будуць яны жыць доўга разам... Не будзе ім шчасця. Бяда, дый годзе.

Пра тую бяду ў Хамутках некаторыя распавядаюць з неахвотай, прамоўчваючы, убачыўшы мяне, раптам зварочваюць у свае веснічкі. Іншыя ахвотна, нават з нейкай яхіднасцю любуюцца ў апісванні таго, што бачылі і чулі. Але тых няшмат. Хамуткі славутыя тым, што жывуць тут людзі спакойныя, памяркоўныя, самавітыя, проста людскія.

— Вы, пісакі, ходзіце па белым свеце ды ўсё вынюхваеце, дзе трапіцца якая кроў ды няшчасце! — крычыць на мяне дзед Мікалай Галей і пастуквае палачкай у тратуар. — Такі добры хлопец быў!

— Некаторыя кажуць, што вінавата ў яго смерці жонка Галіна?.. — не паддаюся, хоць самой крыўдна і непрыемна трывожыць усхваляванага старэнькага суседа Мішы Буя.

— А ў чым тут яе віна? Што запіска была: „На злосць павешуся?!" Якую ён мог мець злосць да жонкі? Добрая, дбайлівая. Нідзе не валачылася, глядзела ў яго як у абразок...

— Вы, дзеду, мала ведаеце, бо з кулясачкай толькі па падворку топчацеся. А яна ж маладая. Толькі глянь, зноў замуж пойдзе, я сам яе ахвотна ўзяў бы хоць сёння, — смяецца стары кавалер Здзісек, выразна на лёгкім „цыку", увесь у брудноватым джынсе.

— Мог мець нейкую злосць і да маці... — заўважаю няўпэўненым голасам.

У дзеда ўступае фурыя. Аж замахваецца сваёй белай палачкай на мяне.

— Маўчы! Такое маці, як Гандзя, ніхто ніколі не меў! Усім умела дагадзіць. За іншымі свету ўсё жыццё не бачыла! Усё ў подбежках, усё то сваім бацькам, то свекрам, то дзецям гадзіла. Адзін яе грэх, што так сама сябе не глядзела. Як такой маці Міша мог такое зрабіць! Такі сын!..

Дзядуля дрыготкімі рукамі бярэцца за палачку, з крэктам устае і памаленьку ідзе да свае брамкі. У чырвоных вачах слёзы.

Здзісек з кішэні джынсаў выцягае „Maestro", частуе мяне.

— Калі не хочаш закурыць, мне больш будзе. Не куры, здаравейшы памрэш. Мішка не смаліў. А ўвогуле, то зусім без дай прычыны павесіўся. Я на яго месцы Богу ногі цалаваў бы за такое шчасце, якое яму дасталася. У хаце як у шклянцы, самаход, такая баба ў ложку! Мне б якую дзеўку там у сябе ў Беластоку пашукайце.

— Дурань, і ўсё, хоць вучоны! — плюецца солтыс. — Замест жыць, як трэба, то сабе пятлю на дурную шыю закінуў! А мне тут у вёсцы статыстыку папсаваў, хай яго ліха! Хто ж мог спадзявацца, што такое ярэ стрэліць? Зусім жа нармальны хлопец быў.

Галіна сядзіць у хаце. З Міхалавай маці прасуюць свежа высушаную бялізну. Прыгожая, стройная брунетка, падстрыжаная пад хлопчыка.

Я мнуся няўпэўнена на парозе.

— Заходзьце. Дзякуй Богу, што не з паліцыі. Ужо нам усё гэта абрыдла, — уздыхае маці, досыць яшчэ маладая, злёгку сіваватая мажная жанчына.

— Калі я выходзіла замуж, ведала, што ў Мішы бываюць атакі дэпрэсіі. Яго ў армію ўзялі, то зараз дамоў адправілі. Находзіла на яго нейкая туга. Усё гаварыў, што так перажывае бяссэнснасць існавання, войны на свеце, гвалт і голад на зямлі.

— Ведаеце, сядзім за абедам. Есць катлету, адсуне талерку, маўчыць, і потым кажа: „Гляньце, мама, мы забілі звяра, ямо яго мяса, а ў Афрыцы дзеткі з голаду пухнуць, нават адной бульбіны не маюць. Жывецца мне так добра, а ўсё здаецца, бы грашу. За што мне Бог даў такое шчасце?"

— Лячыўся ад дэпрэсіі?

— Ездзіў у амбулаторыю, прымаў таблеткі. Так папраўдзе то хіба ніхто і не ведаў пра яго нямогласць. — Галіна зачыняе камоду. — Я пакахала яго за яго ўражлівасць. Быў зусім іншы ад усіх мужчын, якіх я ведала раней. І цудоўна з ім жылося. Быццам хто зачараваў...

— Адна бабулька казала пра прадказанне ў царкве, і пра тую кветку, што вам на шлюбе падарылі.

— Так, баба Маланея была ў нас заўчора. Вырвалі мы тую гартэнзію і спалілі. Не веру я ні ў чары, ні ў забабоны, але мама ўперліся. І тая свечка... Здавалася, што халодны вецер перабег па царкве...

Пад плотам ляжыць горбачка попелу і паморшчанае, карычневае недагарэлае лісце. Гэта астанкі тае злашчаснае кветкі, якую падарыла шчаслівай маладой пары суседка.

— Яна сябравала з Міхасём, — кажа паціху Ганна Буй. — Умела з ім размаўляць, мелі свае сакрэты. Мне здаецца, што, хаця старэйшая ад майго Мішы на пятнаццаць гадоў, штосьці там у іх было. Але што, мала ёй кавалераў? І старых, і маладых! Нябрыдкая, можа знайсці сабе аматара! Чаго да Мішы ўчапілася? Але, вось, бачыце, нашага Мішу ўсе людзі так любілі, паважалі, кахалі... Не кажу такое таму, што гэта маё дзіцё. Нават чужыя сабакі, каты за ім проста ляглі, хадзілі за ім, як свае. Якую ж злосць ён мог мець да жыцця?..

**Міра Лукша**

*Імёны, прозвішчы і назвы зменены.*

# Позірк у мінулае

**22 верасня**

1499 г. — мірны дагавор у Базелі прызнаў фактычную незалежнасць Швейцарыі і яе выхад са Свяшчэннай Рымскай імперыі.

1791 г. — нар. Майкл Фарадэй, англійскі фізік, заснавальнік сучаснай электрадынамікі.

1862 г. — прэзідэнт ЗША Аўраам Лінкальн аб'явіў усіх жывучых у рабстве вольнымі.

1991 г. — звыш 90% жыхароў Арменіі выказалася ў рэферэндуме за незалежнасцю краіны.

**23 верасня**

1215 г. — нар. Кубілай, мангольскі вялікі хан.

1809 г. — цар Аляксандр I аб'явіў Фінляндыю вялікім княствам у саставе Расійскай імперыі.

1939 г. — памёр Зігмунд Фрэйд, аўстрыйскі псіхааналітык.

1949 г. — у СССР праведзена першы выбух атамнай бомбы.

**24 верасня**

1529 г. — пачатак першай аблогі Вены, якая 14 кастрычніка закончылася адступленнем войск султана Сулеймана II.

1541 г. — памёр Філіп Парацэльс, нямецкі лекар і філосаф.

1960 г. — у ЗША спушчана са штапеля *Enterprise* — першы атамны авіяносец.

1971 г. — з Вялікабрытаніі выдалена 90 службачых савецкага пасольства, падазраваемых у шпіянажы.

**25 верасня**

70 г. — разбурэннем іерусалімскага храма рымляне закончылі ўспыхнуўшае у 66 г. паўстанне яўрэяў супраць рымскага панавання.

1765 г. — нар. кампазітар Міхал Клеафас Агінскі.

1906 г. — нар. Дзмітрый Шастаковіч, савецкі кампазітар.

1970 г. — памёр Эрых Марыя Рэмарк, нямецка-амерыканскі пісьменнік.

**26 верасня**

1815 г. — манархі Аўстрыі, Прусіі і Расіі заключылі ў Парыжы *Свяшчэнны саюз.*

1898 г. — нар. Джордж Гершвін, амерыканскі кампазітар.

1921 г. — нар. Кіпрыян Эквензі, нігерыйскі пісьменнік.

1957 г. — прапрэм'ера мюзікла *West Side Story* ў Нью-Йорку.

**27 верасня**

1389 г. — нар. Казіма дэ Медычы, фларэнцкі банкір і мецэнат.

1533 г. — нар. Стэфан Баторый, польскі кароль.

1540 г. — папа Павел III зацвердзіў заснаваны Ігнаціем Лаёлам ордэн езуітаў.

1825 г. — між Дарлігтан і Стоктан у Англіі праехаў першы поезд.

1939 г. — нямецкія войскі занялі Варшаву.

1950 г. — амерыканскія войскі занялі Сеул.

**28 верасня**

1864 г. — заснаванне I Інтэрнацыянала ў Лондане.

1895 г. — памёр Луі Пастэр, французскі прыродазнавец.

1912 г. — у берагоў Японіі патануў параход „Кічэ Мару"; загінула каля тысячы чалавек.

1924 г. — нар. Марчэла Мастраяні, італьянскі акцёр.

1934 г. — нар. Брыжыт Бардо, французская актрыса.

1970 г. — памёр Гамаль Насэр, егіпецкі палітык.

1973 г. — адкрыццё новага опернага тэатра ў Сіднеі. **(Ш)**

# Парнасік

## Лес — ізноў цябе ўспамінаю

*Прысвячаю свайму найлепшаму прыяцелю і карэспандэнту „Нівы" — Уладзіміру Сідаруку*

Ізноў цябе, лес, успамінаю  
І шчыра праслаўляю.  
Чалавеча! Ад сэрца і душы  
Лесам даражы!  
Ён даражэй золата, скарбаў,  
Будзь яго старажам-вартай  
Ад жулікаў, браканьераў;  
Будзь ахоўвай праверанай.  
Ён стваральнік кіслароду  
Для арганізмаў жывых ад родаў.  
Ён — лёгкія Зямлі  
Цэлыя ночы і дні.  
Дыхаем яго паветрам,  
Што нясецца ветрам.  
Жывучы ў яго цэнтры  
Не трэба ніякай *рэнты.*  
Гэта лячэбніца цудоўная,  
Ніколі не адмоўная.  
Яго знішчаюць розныя фірмы,  
Хаця і час мірны,  
Сякуць найлепшыя дрэвы векавыя...  
Бяда, калі анархія і дні выхадныя.  
Тэхніка праклятая  
Пашанай абнятая —  
Гэта яна дапамагае знішчыць лес,  
Як караед, што далёка ўлез.  
Лес ён з'ядае, як змей-дракон,  
Прыносячы страшэнны *ўрон.*  
Дрэвы растуць гадамі  
І дараць сваімі пладамі.  
Асцярожнасць у лесе патрэбная,  
Але калі яна бедная,  
Лес знішчаецца  
І яго якасць абніжаецца.  
Караед дрэвы пад'ядае,  
А пасля ураган на зямлю перакідае.  
Найгоршы вораг — агонь у лесе,  
Стыхія, што ўверх кругом палезе;  
Застанецца пустыня ці яшчэ страшней...  
Чалавеча, трымайся прыроды мацней!  
Лес дае нам усім жыць,  
Трэба ім даражыць.  
А куды схаваюцца родныя птушкі,  
Звяры і карысныя мушкі?  
У лесе — ўлонні прыроды,  
Месцы на іхнія роды!  
Можам пахваліцца сваёй пушчай,  
Як найсмачнейшай хлеба лустай.  
Будзем зрэзваць сухія дрэўцы,  
Непрыдатныя, і будзем умельцамі.  
Будзем старацца ўмела  
З любоўю, пашанай, спела.  
Лес нам аддзячыць сто разоў  
Многімі карысцямі... Не хапае слоў!  
А факт самы важны —  
Будзьма да лесу разважнымі.  
Кожная галінка нам шэпча, гаворыць,  
Спагады і дапамогі нас просіць.

**Мікалай Панфілюк**

## Як далей

Як далей для нас рабіць,  
Ды за што ўзяцца:  
Ці свіней у хляве карміць,  
Ці каровамі заняцца?..  
Прадасі як малако,  
У краме вады не купіш.  
Ой, халерны бізнесмены  
З цябе скуру лупяць!  
Прадасі ты парсюка,  
Станеш падлічаці —  
Не было табе за што  
Над ім танцаваці.  
Прывязе ў вёску хлеб,  
Дзярэ колькі зможа,  
Каўбасу хочаш купіць,  
Ды заплаціш гожа.  
Сораму ў яго няма,  
Што тут нам казаці.  
Есці хоча кожны з нас  
Ды мусіць купляці.  
На вярхушцы хто сядзіць,  
Усе добра знаюць,  
Пра калісьняе жыццё  
Хутка забываюць.

**Мікалай Лук'янюк**

## адзінота

усюды людзей шмат  
а я адна сярод іх  
усе кудысьці бягуць  
па сваіх справах  
мне цяжка ў душы  
Ты далёка ад мяне  
з нікім мне не падзяліцца  
радасцю і сумам

**Аўрора**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Часта сняцца мне розныя фантастычныя сны. Часамі прачнуся, а ў галаве ўсё пераблытаецца — нават запісаць не паспею. А вось гэты сон мне запамятаўся надта выразна.

Іду. Перада мною шмат жалезных брам. Усе яны паддаюцца, і я іх адчыняю. І так урэшце дайшла я да канца. А тут бачу мур. Няма выйсця. Заўважаю, што пад мурам ляжыць шмат туфляў. Я з гэтай кучы выбрала сабе боцікі на блакітным катурне. Раптам заўважаю, што трымаю ў руках толькі адзін боцік, а другога няма. Як жа гэта сталася? Я ўпэўнена, што быў і другі.

І я ўжо не іду далей, куды ішла, а выходжу адтуль тымі самымі дзвярыма, якімі ўваходзіла. Быццам ужо аформіла патрэбную мне справу.

Раптам бачу, што мой знаёмы, малады мужчына з нашай вёскі, вядзе туды маю маці. Я непакоюся. Яна ж адна не дасць рады адтуль выйсці!

Што можа абазначаць гэты сон?

**Марыя**

Марыя! Факт ёсць факт: сон сведчыць пра тваё жыццёвыя цяжкасці. Праўда, табе ўдалося паадчыняць тыя жалезныя брамы, але ж і так ты не дасягнула пастаўленай перад сабою мэты, бо перад табою апынуўся мур, і выйсця ўжо не было.

Можа, ты збіралася ў падарожжа, але нічога з гэтага не выйшла. Сама бачыш, што, выбраўшы прыгожыя боцікі на блакітным катурне, ты заўважыла, што ёсць толькі адзін. А ў адным як жа хадзіць?

Думаю, аднак, што клопаты твае канцэнтруюцца вакол маці, якую за тыя жалезныя брамы павёў твой знаёмы, сусед.

**Астрон**

# Піва з кубкам

У Кляшчэлях ёсць піўны бар, які змяшчаецца ў будынку даўнейшай „Бэтэскі".

Ціхі куточак, прытульнае месца. Тут і паснедаць можна, бутэрброд заказаць, ці каву выпіць. Я зайшоў з сябрукамі на куфаль халоднага піўца. Кажуць, лепш смакуе, чым у бутэльцы. Афіцыянтка аказалася ветлівай жанчынай. Хуценька абслужыла нас, і назвала цану.

— Так дорага піва каштуе? — пытаюся прадаўшчыцы, калі пачуў... семдзесят шэсць тысяч.

— За сам кубак дзве тысячы плаціце.

— Я ж дахаты яго не вазьму — тлумачу барменцы.

— Цяпер можна браць, ён ваш, — адказвае тая.

— А што ж з ім рабіць?..

— Можаце выкінуць...

— А шкляных куфляў няма ў вас? — працягваю гутарку.

— Няма. Апівохі пакралі...

Значыцца, кліенту трэба са сваёй пасудай у бар прыходзіць за півам, а не, дык за дзве тысячы пластмасавы кубак у прыдачу да піва купіць. Дзіўная вынаходка. І зусім не дурная. Прадпрымальнік піва прадасць і пасуду таксама.

Некаторыя кліенты пластмасавыя кубачкі ў бары пакідаюць. Цікава куды яны трапляюць: ці ў сметнік, ці другому апіваху на стол? Пэўна і так барменка не скажа праўду.

**(ус)**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. міфічны лётчык, 8. чыгунны кацёл для стравы, 9. яд, 10. вярхоўны орган выканаўчай улады, 11. брус паміж вушакамі, 13. невялікая аповесць, 15. чэрава, жывот, 16. злакавае суквецце, 20. жанчына-парабак, 22. патомак, 23. горад у Славакіі, 27. задняя частка галавы, 29. горад ва Узбекістане, 30. горад на поўначы Чылі, 31. у калодзежы, 32. чылійскі паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, 33. знішчальны агонь, 34. яна яе мые.

**Вертыкальна:** 1. белая вадкасць ад 2, 2. дае 1, 4. горад на поўдні Бразіліі, 5. тоўстае палатно з грубай ільняной пражы, 6. расце на лузе, 7. процілегласць падлозе, 12. уласнік, уладар, 14. заступнік, 16. дамашняя жывёла, 17. прэснаводная рыба, 18. рэгістрацыя кадраў, 19. кусты вярбы, вінаграду, 21. падраздзяленне паліцэйскага гарадскога ўчастка ў царскай Расіі, 24. рака ў Палесціне, 25. кіраўнік універсітэта, 26. правы прыток Буга, 27. надзімаецца ветрам і прыводзіць яхту ў рух, 28. прадмет гандлю. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 31 н-ра:**

**Гарызантальна:** драма, прэзідэнт, прэса, тонус, Яна, палімер, каравай, дар, алыча, сліва, Махачкала, дзіва.

**Вертыкальна:** палігон, дрэва, адэпт, прэзідыум, Танганіка, Прага, слава, ярд, акр, анучнік, адход, скала.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.


Ніва

**„Niwa"**  
ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.  
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.  
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка





*Мал. В. Галушкі*

## Пародыі

**Жырафа ў крапіве**

*Увайшла я ў збожжа*
*па самую шыю...*

**Ірына Свентахоўская**

Я ў крапіву ўвайшла па шыю,
Пасля ў асот перапаўзла,
Не апяклася б я магчыма,
Каб я жырафаю была.
Была б я стройнай і высокай,
На зайздрасць макаўскіх дзяўчат.
Мяне заўважылі б далёка
І бізнесмен, і лейтэнант.
Але, на жаль, я не жырафа,
Таму пячэцца крапіва...
Ды суцяшае, што у збожжа
Падскажа сцежку галава.

**Сяргей Чыгрын**

<u>У кіпцюрах цецерука</u>

## Даміно

У суботу раніцай Ігнат прачнуўся перакананы, што ён вельмі любіць свой край, старонку гэту. Пралупіў вочы, агледзеўся навокал. Усё было знаёмае. І сцяна, і ложак. Нат баба адзіная і ад трыццаці гадоў тая ж самая. Усё было знаёмае. І толькі думка пра Радзіму, трывожная і нахабная бы муха досвіткам, была новая.

Ігнату вельмі захацелася падзяліцца навіной з кім-небудзь. Мала важнае з кім, абы толькі хутка. Адкінуў коўдру, нырнуў у чаравікі і шмаргануў на вуліцу. На суседнім панадворку Лукаш паіў каня. Вось-вось адкрываў Ігнат рот, каб перадаць суседу добрую вестку, калі нешта пякучае, нядобрае ды варожае ўпаролася ў ягоныя грудзі і якімсьці нябачаным бізуном ляснула па душы.

— Бачыш яго, — падумаў, — каня поіць як быццам нішто і не здарылася. А мой вараны здох. Бабка з Гулянкі добра падказала: паддзелка канешне, як піць даць, паддзелка.

А мы ўжо ведаем хто-такі паддзелкі робіць. Усё ведаем.

— Дулю табе, а не добрую навіну, чорт ты крываносы, — падумаў Ігнат і павярнуў дамоў.

Не мінуў тыдзень, як у „Нашай газеце" пабачыў свет напісаны Ігнатавай рукою ліст.

„Я, Капішон Ігнат Андрэевіч вельмі люблю сваю Радзіму. Змагаўся за яе, можна сказаць, змалку. Калі немцы прыйшлі ў вёску, мне было ўсяго тры годзікі, а ўжо тады тыцкаў я фашыстам з-за фіранкі дулю, за што няўдзячная дзяржава дабаўляе цяпер да пенсіі ўсяго сто тысяч старых злотаў. Я чытаю родную літаратуру і сам пішу вершы, бо я культурны чалавек і вельмі люблю сваю Радзіму, чаго нельга сказаць пра Дубаеда Лукаша Раманавіча. Ён, сволач крываносая, за Радзіму не змагаўся ніколі, а швагер дваюраднай сястры Лукашовай жонкі быў у вайну паліцэйскім. Уцёк потым з немцамі, а цяпер прысылаў грошы, маркі, значыцца, за якія Лукаш купіў сабе каня. Каб гэты конь здох, як здох мой вараны. Я — хрысціянін і Лукашу, каб яму ногі пакруціла, смерці не жадаю. Няхай толькі гэты конь выпруціцца".

Адказ прыйшоў пакуль яшчэ астыла друкарская фарба. Быў ён так шчыры, культурны і па-хрысціянску лагодны, што прыводжу яго Вам, дарагія чытачы, поўнасцю, без ніякіх скарачэнняў, як прыклад палемікі на самым высокім узроўні.

„Я, Дубаед Лукаш Раманавіч выяўляю, што ёсць праўда, а што лож (піс. аўт.). Капішон Ігнат ніякую радзіму не любіць. І дуляў з-за фіранкі немцам таксама не тыцкаў проста таму, што ў ягонай хаце ніколі фіранак не было. А да пенсіі дзяржава яму дабаўляе не сто тысяч, а мільён трыста. І ніхто не ведае чаму. Праўдападобна за банку жытняй самагонкі, выпітую з сакратаром партыі. А простаму народу прадавала гэтая гніда самагонку ўзмоцненую курыным гаўном і сінім каменем, ад чаго і сышоў на вечны спакой наш незабыўны Алесь Куля, апазіцыйны дзеяч. Капішон — гэта ілгун і сімулянт. На левую нагу кульгае толькі тады, калі суседзі глядзяць. А як Коліна Сонька раньком вярталася ад Хведара і неспадзявана налезла за стадолаю на Ігната, то ён зусім не кульгаў. Бегам нат кінуўся гэты сабака ілжывы, каб паглядзець, якая ж гэта маладзіца рогі гаспадару свайму дамоў нясе. Я, Дубаед Лукаш вельмі люблю сваю Радзіму, а Ігнат гэта ілгун".

Ліст ад Сонькі дабраўся ў рэдакцыю напрыканцы лета і пачынаўся больш-менш так:

„Шаноўны пан рэдактар. Ігнат хлусіць. Ніколі я да Хведара не хадзіла, бо й няма чаго. А Дубаед бугай таксама. Яшчэ ў сакавіку месяцы, і ён, і Грыша Самасей падгаворвалі мяне, каб вечарам на мосцік выйшла. А якраз пост быў вялікі і я ўсё Колі свайму расказала. Коля сказаў, што яны бязбожнікі, а мяне адлупцаваў невядома за што. Шаноўны пан рэдактар, парайце, што мне рабіць, калі Дубаед і Самасей зноў угаворваць стануць, каб на масток выйшла. Гаварыць Колі, ці не? Адказ дайце па-польску. Па-беларуску я кепска чытаю, затое пішу дасканала, бо я вельмі люблю сваю Радзіму. І вашу газету таксама".

Ліст ад Грышы Самасея дамчаўся ў рэдакцыю пад восень. Праўда, гэтага чалавека балбатуном назваць немагчыма. Напісаў ён і коратка, і змястоўна:

„Шаноўны рэдактар! Соньку ўгаворваць няма патрэбы. Прабачце, што пішу так сціпла. Цэлымі днямі думаю пра Радзіму. Нават бульбу капаць няма калі. Гніе! Няхай гніе на здароўе! Перш за ўсё — Радзіма! Так ідуць да зор!"

Абмен карэспандэнцыі працягваецца. Каб не змясціць, купілі мы ўчора новую шафу. Што я гавару — купілі! Прыняўшы пад увагу тое, што шафа куплена за грошы, зэканомленыя на ганарарах журналістаў, паэтаў і празаікаў, можна сказаць, што яна атрымалася нам цалкам дарма.

**Міхась Андрасюк**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Мне трэба абавязкова звольніць свайго шафёра, — скардзіцца дырэктар жонцы. — Ездзіць ён як дурань; ужо тры разы такога натварыў, што я ледзь з жыццём выйшаў.

— Дай яшчэ яму хаця б адзін шанц...

* * *

— Я хіба здорава напіўся на гэтай бяседзе, — гаворыць муж жонцы, — бо нічога не помню. Моцна я там нашумеў?

— А так! Цэлы час сядзеў перад акварыумам і наракаў, што фонія выйшла са строю.

* * *

— Чаму трыццацігадовая жанчына выглядае наогул горш за мужчыну ў тым самым узросце?

— Бо так, папраўдзе, яна намнога старэйшая.

* * *

— Ой, пан Кавальскі! Не апавядайце такіх непрыстойных анекдотаў; я ўся чырванею.

— А я — дальтаніст.

* * *

— Павер, учора ўпершыню, год пасля вяселля, перагаварыўся з жонкай.

— І за што?

— Яна хацела на абед зрабіць печань, а я захацеў біфштэкс.

— Ну і як табе смакавала тая печань?

* * *

— Знаеш, — расказвае жонка мужу, — мой дырэктар прызнаўся мне сёння, што для мяне развёўся б са сваёй жонкай. Ён, пэўна, жартуе...

— А можа не! — з надзеяй у голасе перабівае муж.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Ну і разява з твайго нарачонага...

— Што ты кажаш!? Я нічога такога ў яго не заўважыла.

— О! Учора падчас танцаў мусіла яму цэлы час прыпамінаць, што не я, а толькі ты з'яўляешся яго нарачонай.

* * *

У спавядальні:

— Мой найбольшы грэх, ойча, гэта пыхлівасць. Магу цэлымі гадзінамі сядзець перад люстэркам і захапляцца сваёй красою.

Зацікаўлены ксёндз выхіліўся са спавядальні, паглядзеў і апусціўся на сваё месца.

— Дачка! Тое, пра што ты гаворыш, гэта не грэх. Гэта недаразуменне.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Прачытала я ў „Ніве" за 4 жніўня гэтага года ліст Анджэлікі і аж дзіў мяне ўзяў. Божачкі, няўжо наша піва, беластоцкае, аж такой моцы набрала?! Бо чула я (праўда, не давялося мне сёлета самой быць на нашым, беларускім рок-фэсце ў Барку, але была там мая сяброўка), што ў гэтым годзе прайшоў ён пад шыльдай славутага бровара „Дайліды". Так і было напісана: замест „Басовішча" — проста „Дайліды"! Не паверыла б я ніколі, калі б не ведала сваю сяброўку. О! яна не маніць!

Але, каб аж так піва ў галаву дзяўчыне стрэліла, што здарылася аж падзея метафізічная, дык я яшчэ такога не чула. Праўда, казалі, што ў Амерыцы ў апошні час паявіўся нейкі новы наркотык падобнага дзеяння. Амерыканцы баяцца яго, як агню. А шмуглююць гэты наркотык аднекуль з поўдня. Нават ахову сваіх паўднёвых граніц амерыканцы ўзмоцнілі. Ну, падумай, Сэрцайка, дамовіцца дзяўчына з хлопцам, а ён укіне ёй такую таблетку ў каву ці гарбату — і яна вып'е, не заўважыўшы нават. І зараз пападае ў такую метафізіку, што ты яе хоць гвалтуй — не гвалтуй, а яна не то што будзе спаць, як пшаніцу прадаўшы, але і ў памяці нічога не застанецца. Вернецца такая „метафізічная" дзяўчына дахаты з забавы і не ўяўляе сабе, колькі радасці страціла. Часамі праз пару месяцаў толькі агледзіцца, што нешта мусіла быць, бо зацяжарыла. Во тут дык метафізіка! Але, каб у нас наша піва „Дайліды" такую хітрую моц мела, не думала я і не меркавала.

А бачыш жа, Анджэліка вось, выпіўшы раз і два піўца нашага добрага, не памятала нават, ці здзейсніла „тое", ці можа проста „крыніцай насалоды была музыка". Мяркую, што неўзабаве даведаецца, а менавіта тады, калі ў джынсы не ўлезе. Нездарма той фан, яе абняўшы, на зямлю паваліў. Чаго ж бы стараўся?! Навошта б словы чулыя шаптаў, калі ўсё навокал набухла ад напругі... Але ж у яе паняцці ўсё змяшалася ў адно: піва і музыка, хлопцы і дзяўчаты, і не было моцных, каб раздзяліць усё гэта.

Ведаеш, Сэрцайка, а мо гэта і не важна, пад якой шыльдай праходзіў наш маладзёжны фестываль. Галоўнае, што ён выканаў сваё заданне. І не толькі ў справе распаўсюджвання беларускай рок-музыкі, але і ў іншых „метафізічных" справах, якія ў спрыяльных варунках могуць прыняць цалкам рэальныя формы. Прынамсі без прымусу прыбудзе нам маленькіх беларусікаў.

Мая сяброўка, напрыклад, зацяжарыла на фестывалі цалкам свядома і звычайна, без ніякай „метафізікі", як гэты факт прабуе назваць ашуканка Анджэліка. Праверылася ў лекара, усё ідзе нармальна.

Не магу паверыць у тое, што мяшанка: піва + рок-музыка можа мець аж такое дзеянне, як новы наркотык у Амерыцы. А калі так, дык мо варта такое вынаходніцтва запатэнтаваць! Га, Анджэліка?!

**Аліна**

Аліна! Прыхіляемся да тваёй думкі, што запатэнтаваць такое спалучэнне варта было б. Піва і рок-музыка — гэта ж у суме не так і дорага. Ды толькі навошта?! Каб нехта мог гвалціць цябе без твайго ўдзелу?! Дык што ж гэта за прыемнасць! Ну, дальбог, нейкая фантасмагорыя.

**Сэрцайка**